


*Пінск. Катэдра Унебаўзяцьця Найсьвяцейшай Панны Марыі. 1 мая 1997г.* Інаугурацыя пілігрымкі Маці Божай Фацімскай.



МАЦІ БОЖАЯ ФАЦІМСКАЯ НА БЕЛАРУСІ

# АДКРЫЙМА СВАЕ СЭРЦЫ

Несумненна, што сёлетні май – гэты ўлюбёны Божым людам Марыйны месяц – асаблівы ў жыцьці ўсяго Каталіцкага Касьцёла на Беларусі. Фацімская Маці Божая ў выяве прыгожай фігуры, якую прывёз з Фацімы арцыбіскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі кардынал Казімір Сьвёнтэк, распачала 1 мая ў Пінскай катэдральнай базыліцы сваю перэгрынацыю па нашым краі.

Факт надзвычайны. Факт, які яшчэ некалькі гадоў назад здаваўся проста немагчымым, цяпер стаў цудоўнаю яваю…

…80 гадоў таму Найсьвяцейшая Панна Марыя сышла на благаславёную зямлю далёкай партугальскай Фацімы, каб праз траіх пастушкоў перадаць усяму сьвету Пасланьне надзеі, любові і спакою, а разам з тым і збалелую мацярынскую просьбу-папярэджаньне аб навяртаньні, аб малітве і пакаяньні.

Паводле славацкага біскупа П.Гніліцы, аб'яўленьні ў Фаціме – гэта найвялікшае, з часу сьмерці апосталаў, умяшальніцтва Бога ў гісторыю чалавецтва…

Асаблівае месца ў Пасланьні Маці Божай, якое Яна перадала фацімскім дзецям 13 ліпеня 1917г., займаў Усход, у прыватнасьці Расія, што ўжо напрыканцы 1917г. была залітая крывавым пападкам рэвалюцыі. Зразумела, Пасланьне датычыла таксама і Беларусі, якая ў многім дзяліла трагічны лёс Расіі…

13 чэрвеня 1929г. у капліцы навіцыяту сясьцёр сьвятой Дароты ў Партугаліі візіянерка сястра Люцыя пачула голас Маці Божай. Марыя папярэджвала: "Надышоў момант, у які Бог жадае ад Сьвятога Айца зьдзяйсьненьня ў еднасьці з усімі біскупамі сьвету прысьвячэньня Расіі майму Беззаганнаму Сэрцу"…

Аднак ва ўсёй паўнаце гэтая просьба Маці Божай Фацімскай была выканана толькі 25 сакавіка 1984г., калі на плошчы сьв.Пятра ў Рыме Ян Павел II разам з біскупамі ўсяго сьвету зьдзейсьніў перад Яе фігураю акт прысьвячэньня Расіі і ўсяго чалавецтва Беззаганнаму Сэрцу Найсьвяцейшай Марыі Панны. На думку сястры Люцыі, толькі тады была цалкам выканана просьба Маці Божай у Фаціме.

А праз 11 гадоў, 26 ліпеня 1995г., Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі і Апостальскі адміністратар Пінскай дыяцэзіі кардынал Казімір Сьвёнтэк, Апостальскі адміністратар Казахстана і Сярэдняй Азіі Ян Павел Ленга, суфраган Жытомірскай дыяцэзіі ксёндз біскуп Станіслаў Шырокарадзюк прысьвяцілі свае мясцовыя Касьцёлы Маці Божай Фацімскай.

З таго часу прайшло амаль два гады і вось, нарэшце, Фацімская Пані з далёкай Партугаліі ступіла на зямлю Беларусі.

Старажытная катэдральная базыліка ў Пінску шырока і гасьцінна расчыніла перад Ёю свае дзьверы і ва ўрачыстай працэсіі сьвятароў з усяе Беларусі, законьнікаў і законьніц, шматлікіх вернікаў, дзяцей і моладзі пад узьнёслае "Ave Maria" фігура Маці Божай Фацімскай была ўнесена ў сьвятыню і заняла сваё пачэснае месца на ўпрыгожаным троне збоку ад галоўнага алтара.

І на нейкае імгненьне далёкая партугальская Фаціма стала такою блізкаю і асязальнаю тут, у гэтай Пінскай сьвятыні, упрыгожанай старажытнымі гербамі беларускіх гарадоў, што сімвалізуюць шлях Маці Божай па нашым краі. Трое дзетак, акурат ва ўзросьце Францішка, Люцыі і Жасінты – тых вядомых ва ўсім сьвеце фацімскіх пастушкоў, якім аб'яўлялася Божая Маці, такія ж смуглявыя, апранутыя ў партугальскія народныя строі, на мілагучнай партугальскай мове сардэчна і ўсхвалявана першымі прывіталі Фацімскую Пані і ўсклалі да Яе падножжа вясновыя краскі беларускага краю.

Пасьля Маці Божую вітала мясцовая моладзь, законныя сёстры, вернікі…

Напачатку ўрачыстай Сьвятой Імшы, у якой прымаў ўдзел нунцый Апостальскай Сталіцы арцыбіскуп Дамінік Грушоўскі, да ўсіх прысутных з пранікнёным словам зьвярнуўся кардынал Казімір Сьвёнтэк. Ён прывітаў Маці Божую з Фацімы ад імя ўсяго сьвятарства на Беларусі. Арцыбіскуп адзначыў, што Маці Божая Фацімская ўвайшла ў Пінскую катэдральную базыліку ў асаблівы дзень, у дзень кансэкрацыі сьвятыні, якая адбылася 1 мая 1730 года. Зьдзейсьніў кансэкрацыю ў той далёкі майскі дзень біскуп Луцкі і Брэсцкі Стэфан Рупнеўскі...

Далей Яго Эмінэнцыя зазначыў, што фігура Маці Божай Фацімскай наведае ў гэтым годзе парафіі Пінскай і Гродзенскай дыяцэзій і з мая 1998г. працягне сваю перэгрынацыю ў Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі.

"Мэта гэтай пілігрымкі, – сказаў кардынал Казімір Сьвёнтэк, – набліжэньне людзей да Бога, асабліва праз пакаяньне, праз паяднаньне, праз ружанцовую малітву і набажэнства да Беззаганнага Сэрца Марыі, асабліва ў першыя суботы месяца. Я перакананы, што гэтаксама як і ў іншых краінах сьвету, так і ў нас, на Беларусі, наведзіны Маці Божай Фацімскай дадуць свае цудоўныя вынікі. Таму нам трэба прыкласьці ўсе намаганьні і як мага лепш выкарыстаць той дзень прысутнасьці Фацімскай Пані ў сваёй парафіі, каб адбыць споведзь, каб прыступіць да Сьвятой Камуніі, каб паяднацца з Богам і з людзьмі і адначасова знайсьці як найбольш часу на малітву, асабліва ружанцовую, асабліва да Беззаганнага Сэрца Найсьвяцейшай Панны Марыі.

Я перакананы, што гэтая пілігрымка Маці Божай Фацімскай у Яе фігуры ажывіць рэлігійнае жыцьцё краю, наблізіць людзей да Бога і паспрыяе збліжэньню ўсіх веравызнаньняў..."

У часе ўрачыстага набажэнства было прачытана пасланьне, атрыманае з Апостальскай Сталіцы ў сувязі з гэтаю знамянальнаю падзеяй. У ім перадаецца радасьць Сьвятога Айца з нагоды пачатку перэгрынацыі фігуры Маці Божай Фацімскай па Беларусі і благаслаўленьне Яго Сьвятасьці для ўсяго Касьцёла ў нашым краі. Пасланьне было прачытана на італьянскай, беларускай і польскай мовах. Па-італьянску яно прагучала з вуснаў нунцыя Апостальскай Сталіцы арцыбіскупа Дамініка Грушоўскага.

У канцы набажэнства, каля падножжа фігуры Маці Божай Фацімскай, пробашч Пінскай катэдральнай базылікі а.Станіслаў Паўліна прачытаў акт прысьвячэньня свае парафіі Маці Божай...

Урачыстае ўшанаваньне фігуры Маці Божай Фацімскай закончылася ў Пінскай катэдральнай базыліцы 2 мая гадзінкамі да Найсьвяцейшай Панны Марыі і развітаньнем з Яе фацімскаю фігураю. Далейшы Яе шлях ляжаў у Осаўскую парафію...

Так хвалююча і надзвычай урачыста распачалася пілігрымка фігуры Фацімскай Пані па сьвятынях Беларусі. Хочацца спадзявацца, што Яна, Маці Божая з Фацімы, увойдзе не толькі ў нашыя Касьцёлы, але і ў нашыя сэрцы і пераменіць іх, і ўмацуе нашу веру, і разьясьніць нашыя душы надзеяй на міласэрнасьць Яе Боскага Сына. Толькі кожны з нас павінен таксама духова падрыхтавацца да наведзінаў Маці Божай Фацімскай і з радасьцю выйсьці Ёй насустрач.

**Крыстына ЛЯЛЬКО**

## АКТ ПРЫСЬВЯЧЭНЬНЯ МАЦІ БОЖАЙ ФАЦІМСКАЙ КАТЭДРАЛЬНАЙ ПАРАФІІ Ў ПІНСКУ



Марыя, Цудоўная Маці Бога, мы ў Пінску хочам слухаць тое, што Ты гаворыш нам і ўсяму сьвету ў Фацімскім пасланьні. Паслухмяныя Твайму закліку, мы хочам рабіць тое, чаго чакае ад нас Езус, Твой Сын, мы хочам даверыцца Яго дабрыні. Распалі ў нас дух ахвяры і пакаяньня, каб мы парвалі з грахом і дрэннымі звычкамі і верна выконвалі свае штодзённыя абавязкі.

Марыя з Фацімы, мы аддаемся Табе ў духу перапрашэньня Твайго Беззаганнага Сэрца так, як Ты гэтага прагнеш. Мы хочам палюбіць малітву, асабліва ружанцовую, і перапрашаць за грахі нашыя і ўсяго сьвету. Упрасі ласку для ўсіх грэшнікаў, і асабліва для тых, хто праз спакусу і памылковыя вучэньні падштурхоўваюць да граху сваіх блізкіх, каб яны шчыра навярнуліся да Бога.

Дзякуючы Табе, Маці Касьцёла, людзі становяцца блізкімі адно аднаму. Аднаві ў нас веру, надзею і ўзаемную любоў, учыні нас адкрытымі на дзеяньне Духа Сьвятога.

Ты, што нарадзіла Езуса Хрыста – пасрэдніка паміж Богам і людзьмі, узглянь ласкава на нашых адлучаных братоў і паспрыяй нашаму паяднаньню.

Просім Цябе, Маці, благаслаўляй Айца Сьвятога, благаслаўляй нашых біскупаў, сьвятароў, законьніц і законьнікаў, сьвецкіх вернікаў, якія ім і нам дапамагаюць, благаслаўляй нашу парафію і ўсіх жыхароў Рэспубліку Беларусь, павяліч колькасьць душпастыраў паводле Сэрца Божага, так патрэбных на гэтай зямлі, выпрашай спакой, угрунтаваны на праўдзе, справядлівасьці, свабодзе і любові, а таксама падтрымлівай нашы намаганьні ў імкненьні да Бога. Амэн.







*Ватыкан,*
*23 красавіка 1997 года*

### *Высокашаноўны Эмінэнцыя Кардынал Казімір Сьвёнтэк,*

Сьвяты Айцец з вялікім задавальненьнем даведаўся, што 1 мая бягучага года ў катэдры ў Пінску распачне пілігрымку цудоўная фігура Фацімскай Маці Божай, якая наведае парафіі Пінскай і Гродзенскай дыяцэзій і Мітраполіі Мінска-Магілёўскай.

Даючы ацэнку гэтай ініцыятыве, Сьвяты Айцец духоўна яднаецца з супольнасьцямі вернікаў усіх трох дыяцэзій і запэўнівае ў дары Божай Ласкі для ўсіх, хто прымае ўдзел у гэтай вялікай рэлігійнай падзеі.

Фацімскае пасланьне перадусім зьяўляецца запрашэньнем да навяртаньня сэрцаў, да больш шчырай малітвы і да непахіснай веры ў бясконцую магутнасьць Божай Міласэрнасьці. Дзеля таго, каб чалавецтва атрымала гэтыя духоўныя дары, Маці Збавіцеля з настойлівасьцю прапанавала пастушкам з мясцовасьці Кова да Ірыя распаўсюдзіць малітву Сьвятога Ружанца. Як вядома, Сьвяты Айцец вельмі любіць гэтую малітву і звычайна адгаворвае яе таксама і разам з вернікамі, мноства якіх далучаецца да яго ў першыя суботы кожнага месяца.

Пад час Ружанцовай малітвы, што адбываецца пад апекаю Найсьвяцейшай Дзевы, да якой зьвяртаюцца з настойлівым паўтарэньнем малітвы Ave Maria, перажываецца поўны цыкл Таямніцаў Збаўленьня. Такім чынам адчуваюцца розныя ступені Збаўчай падзеі і кожны мае магчымасьць паглыбіць уласную веру ў сьвятле Божага Слова ды атрымаць ад Пана сілу для таго, каб ад усёй душы і з радасьцю споўніць Ягоную волю.

Усім вернікам згаданых дыяцэзіяльных супольнасьцяў Папа жадае паўтарыць заклік, які паходзіць з Фацімы: "настойліва маліцца, імкнуцца да сьвятога жыцьця, узрастаць у сяброўстве з Богам, спадзявацца на Ягоную міласэрнасьць, падтрымліваць надзею, каб нанова адшукаць унутраны спакой — галоўную ўмову сапраўднага знешняга спакою".

У малітвах, якія ўзносяцца да Бога пад час гэтага "шляху да Сьвятой Дзевы", Сьвяты Айцец раіць нам настойліва прасіць дар міру паміж народамі, каб праз зварот сэрцаў да Бога забясьпечыць трывалы спакой, вольны ад небяспекаў і ад жахаў, што нясуць у сабе канфлікты. Апрача таго, Намесьнік Хрыста выказвае пажаданьне, каб на гэтай зямлі, у напрамку якой часта накіроўваюцца яго думкі, ніколі не памяншалася ў верніках імкненьне да жыцьця, што пасьлядоўна натхняецца Евангельлем. Папа заахвочвае вернікаў да заснаваньня на "камені" веры іхніх выбараў ды праграм і просіць, каб у іх узрастала жаданьне быць сьведкамі Слова Хрыста. Толькі так, па-хрысьціянску, могуць быць перабудаваныя асноўныя элементы чалавечай супольнасьці, якая, пасьля доўгага перыяду асабліва цяжкіх пакутаў, сёньня працівіцца спакусам дабрабыту, заснаваным выключна на матэрыяльных выгадах.

З такімі пажаданьнямі Сьвяты Айцец далучаецца да агульнай малітвы і перадае Вашай Эмінэнцыі і ўсім сьвятарам і дыяканам, законьнікам і законьніцам, вернікам і ўсяму Вашаму народу асабліва Апостальскае Благаславенства.

Карыстаюся нагодай, каб засьведчыць Вашай Эмінэнцыі маю глыбокую пашану.

*Вашай Эмінэнцыі*
*Верны ў Пане*
*Кардынал Анджэло Садано,*
*Дзяржаўны Сакратар Стану*

ДА ЮБІЛЕЮ 2000 ГОДА НАРАДЖЭНЬНЯ ХРЫСТА




*У гэтай пастаяннай рубрыцы на старонках "Ave Maria" на працягу ўсяго года мы будзем друкаваць урыўкі з афіцыйнага дакумента Папскага Камітэту Сьвяткавання Вялікага Юбілею – "Езус Хрыстус – адзіны Збавіцель сьвету, учора, сёньня і навекі". Спадзяемся, што ўважлівае прачытаньне разьдзелаў з гэтага надзвычай важнага дакумента дапаможа ўсім вернікам глыбей увайсьці ў жыватворную, невычэрпную крыніцу Добрай Навіны, якую пакінуў нам наш Збаўца Езус Хрыстус.*

# УЦЕЛАЎЛЕНЬНЕ СЫНА БОЖАГА – ЦЭНТР І ПОЎНЯ ЧАСУ І ГІСТОРЫІ

**(TMA nr.1.10)**

## 1. Аб'яўленьне Году Ласкі

Словы, якія Езус прамовіў у Назарэце на самым пачатку Свайго пасланьніцтва, яшчэ й сёньня, напрыканцы другога тысячагодзя, даюць радасьць, суцяшэньне і вялікую надзею. Увайшоўшы ў суботу ў сінагогу, Ён устаў, каб чытаць. "І падалі Яму кнігу прарока Ісаі; і Ён, разгарнуўшы кнігу, трапіў на месца, дзе было напісана:

Дух Панскі на Мне, бо Ён намасьціў Мяне абвяшчаць убогім і паслаў Мяне аздараўляць разьбітых сэрцам, гаварыць вязьням аб вызваленьні і сьляпым аб вяртаньні зроку, пусьціць змучаных на волю і абвяшчаць Год Ласкі ад Пана.

І, згарнуўшы кнігу ды аддаўшы служцы, сеў; і вочы ўсіх у сінагозе былі зьвернуты на Яго. І Ён пачаў гаварыць ім: Цяпер споўніліся словы Пісаньня, якія вы чулі. І ўсе засьведчылі Яму гэта і дзівіліся ласкавым словам, што выходзілі з вуснаў Яго..." (пар. Лк 4, 17-21).

Прарок Ісая (Іс 61, 1-2) гаварыў пра Месію. Езус у Назарэце тлумачыць прарока Ісаю і сьцьвярджае, што слова прарока знаходзіць у Ім сваё спаўненьне. Гэта Ён – абяцаны Месія, асьвечаны Духам Панскім, пасланы абвяшчаць добрую навіну: вызваленьне вязьням, зрок сьляпым, свабоду прыгнечаным, год ласкі Пана.

Юбілей 2000 Года прагне ўвекавечыць і наноў перажыць гэты год ласкі, распачаты і ажыцьцёўлены Езусам у Яго асобе і Яго справе, год, які Касьцёл прадоўжыў у гісторыі сваім сьведчаньнем. 20 вякоў не толькі не зацьмілі гэтага аб'яўленьня, але, наадварот, спрычыніліся да таго, каб узьняць яго пекнату і запатрабаваньне яго рэалізацыі. Вочы сёньняшняга чалавецтва "зноў скіраваны на аблічча Езуса", зьдзіўленыя словамі, якія яшчэ й сёньня даюць сьвятло, сілу і адвагу жыцьця.

Юбілей зьяўляецца азнаменаваньнем важнай жыцьцёвай падзеі. Гэта не толькі адзначэньне храналагічнай даты, але перадусім – радасны і ўрачысты зварот да рэчаіснасьці па пастаянную, збаўчую і аздараўляльную прысутнасьць Езуса ў часе і ў прасторы, а таксама – спаўненьне і рэалізацыя радаснай навіны Бога, скіраванай да ўбогіх кожнай эпохі і кожнага краю.

У 1997 годзе Касьцёл запрашае хрысьціянаў да паўторнай інтэрпрэтацыі жэсту Пана. Урачыстае сьвяткаваньне Юбілею 2000 Года – гэта, па сутнасьці, заклік да духовага ўздыму, заклік узяць у рукі Евангельле і прачытаць усім пасланьне Езуса, а таксама глыбока, пакорна, адважна і творча перажыць яго зьмест, які нясе радасьць, вызваленьне і ласку.

Працяг публікацыі ў наступных нумарах.

**Падрыхтавала К.Л.**





# РЭХА ПІЛІГРЫМКІ

*Паўгода ўжо працягваецца пілігрымка фігуры Маці Божай Фацімскай па Расіі. Першым гістарычным актам гэтай пілігрымкі было прысьвячэньне Расіі Беззаганнаму Сэрцу Марыі 11 кастрычніка 1996г. у Фаціме, якое зьдзейснена ў часе Сьвятой Імшы ў Капліцы Аб'яўленьняў арцыбіскупам Тадэвушам Кандрусевічам, апостальскім адміністратарам Еўрапейскай часткі Расіі разам з біскупам Юзафам Вэртам, апостальскім адміністратарам Сібіры і біскупам Янам Паўлам Ленгам, апостальскім адміністратарам Казахстана. Укленчыўшы перад фігураю Маці Божай разам з 43 пілігрымамі былога СССР, яны даверылі Марыі будучыню Касьцёла Расіі. На наступны дзень пасьля Сьвятой Імшы, якую вёў кардынал Ёзаф Ратцынгер, – прэфект Кангрэгацыі Навукі Веры, расійскія пілігрымы ўзялі фігуру Маці Божай, каб перавезьці на Усход. Перэгрынацыя яе запланавана на дзевяць месяцаў. Першым этапам пілігрымкі быў Калінінград. 7 лістапада, у гадавіну бальшавіцкай рэвалюцыі, Маці Божая Фацімская прыйшла да вернікаў у Санкт-Пецярбург.*

*У Маскве галоўныя набажэнствы адбываліся 4-8 сьнежня ў касьцёле Беззаганнага Пачацьця Найсьвяцейшай Марыі Панны.*

*12 студзеня ў Арэнбурзе фігуру Маці Божай Фацімскай перадалі з Еўрапейскай у Азіяцкую частку Расіі. Прыняла яе дэлегацыя каталіцкай парафіі ў Чалябінску. І ўсюды, у кожным горадзе, у кожнай мясцовасьці вернікі з вялікім узрушэньнем сустракаюць Маці Божую Фацімскую, на Яе ўскладаюць свае надзеі і спадзяваньні.*

Чэлябінск і Екацерынбург – першыя гарады Азіяцкай часткі Расіі на шляху сьледаваньня фігуры Божай Маці Фацімскай. Такім чынам, прайшоўшы значную частку свайго маршруту, Паломніца ўвайшла ў шырока расчыненыя дзьверы парафій Азіі, у сьнежную, марозную Сібір.

Адметна, што знаходжаньне фігуркі ў гэтых каталіцкіх парафіях супала з заканчэньнем сьвятаў Божага Нараджэньня, сьвятаў нашага духоўнага нараджэньня ў Хрысьце. Парафіяне былі падрыхтаваныя да сустрэчы Яго Маці ў Фацімскім вобразе, які дапамог ім узьнесьці малітвы пакаяньня і навяртаньня. Ёсьць спадзяваньне, што тут спраўдзяцца словы Найсьвяцейшай Панны Марыі: "Урэшце Маё Беззаганнае Сэрца затрыумфуе..."

Сустракаючы фігурку Маці Божай Фацімскай, многія людзі плакалі. Але калі ў першы дзень гэта былі сьлёзы радасьці ад цудоўнай сустрэчы, то ў наступныя дні – нястрымныя сьлёзы шчырага пакаяньня і ўнутранага ачышчэньня. Было ў чым каяцца людзям, якія жывуць у Екацерынбургу, горадзе, вядомым усяму сьвету праз крывавае злачынства – забойства апошняга манарха Расіі і яго сям'і. Тут былі разбураныя ўсе духоўныя сьвятыні розных канфесій, а на падмурку галоўнага праваслаўнага храма ўзьведзены помнік Леніну, што і цяпер стаіць як сімвал бязьвер'я і граху.

Вялікая сіла зла, але Міласэрны Бог не дазваляе, каб яно запанавала. Час духоўнага ўваскрашэньня настаў. І цяпер нават тыя, хто ўжо страціў надзею калі-небудзь маліцца ў храме, маюць такую магчымасьць. Людзі нарэшце могуць стаяць каля цудадзейнай Фацімскай фігуры сваёй Маці, Якая ўсіх шчыра любіць і атуляе. Адчуваючы гэтую невымоўную Матчыну любоў і ласку, людзі ні днём, ні ноччу не пакідалі Яе.

Прабыўшы 4 дні ў Екацерынбургу, фігурка адправілася ў горад Цюмень, у парафію Сьвятога Юзафа. Ад'язджала яна пад галасы званоў праваслаўных храмаў, якія заклікалі сваіх верных на ўрачыстую Літургію сьвята Хрышчэньня.

На некаторы час машына прыпынілася каля памятнага крыжа – на месцы, дзе быў забіты цар Мікалай ІІ і яго сям'я, а потым выехала на не менш вядомы Сібірскі тракт, "дарогу жалю". Па гэтым трагічным для мільёнаў людзей шляху яшчэ доўга будзе ісьці чарговы маршрут пілігрымкі Фацімскай Маці Божай. Не зьлічыць, колькі рускіх, палякаў, немцаў, літоўцаў, украінцаў, беларусаў, людзей іншых нацыянальнасьцяў з болем у душы зьвярталася да Маці Божай, калі ішлі яны ў кандалах па этапах. І вось сюды прыйшла Яна! Многае тут цяпер зьмянілася. Ранейшымі засталіся маразы ды сьнежныя завірухі. І па-ранейшаму гучыць несупынная малітва: "Сьвятая Марыя, Маці Божая, маліся за нас грэшных, цяпер і ў хвіліну сьмерці нашай. Амэн."

По матэрыялах газеты "Свет Евангелия"

**падрыхтавала Г.К.**

# Малітва "Вітай, Марыя"



У Малітве Касьцёла да Маці Божай найчасьцей выступаюць напераменку два кірункі: адзін праслаўляе Пана за "вялікія дзеі", што справіў сваёй пакорлівай Служабніцы, а праз яе ўсім людзям; другі даверае Маці Езуса просьбы і пакланеньні дзяцей Божых...

*2676* Гэтыя два кірункі знайшлі асаблівае праяўленьне ў малітве "Вітай, Марыя":

***"Вітай, Марыя (Радуйся, Марыя)".***

Прывітаньне анёла Габрыэля распачынаецца малітвай "Вітай". Гэта сам Бог, праз пасрэдніцтва анёла, вітае Марыю. У нашай малітве дазваляем сабе зноў падхапіць прывітаньне Марыі разам з паглядам, які Бог скіраваў на сваю пакорлівую Служабніцу, і цешымся з радасьці, якую Ён у Ёй знаходзіць.

***"Поўная ласкі, Пан з Табою"***. Два словы прывітаньня анёла ўзаемазьвязаныя. Марыя поўная ласкі, бо з Ёю Пан. Ласка, якою напоўнена, азначае прысутнасьць Таго, Хто ёсьць крыніцаю ўсялякае ласкі. "Радуйся — Дачка Ерузалема... Валадар пасярод цябе" (Sg, 14, 17a). Марыя, у якой жыве сам Пан, ёсьць увасабленьнем дачкі Сыёна, Каўчэгам Запавету, месцам, дзе прабывае хвала Пана. Яна ёсьць "скінія Бога з людзьмі" (Ап 21, 3). "Поўная ласкі" — цалкам аддаеая Таму, Хто прыходзіць жыць у Ёй і каго Яна маецца нарадзіць.

***"Благаслаўёна Ты між жанчынамі і благаслаўёны плод улоньня Твайго, Езус"***.

Пасьля прывітаньня анёла мы складаем прывітаньне Эльжбеце. "Напоўненая Духам Сьвятым" (Лк 1, 41), Эльжбета стаіць першая ў доўгім шэрагу пакаленьняў, што благаслаўляюць Марыю.

"Благаслаўёная ёсьць, Каторая паверыла..." (Лк 1, 45), Марыя благаслаўёная між жанчынамі, бо паверыла ў спаўненьне слова Пана. Аўраам праз сваю веру стаў благаславеньнем для "людзей усёй зямлі" (Быц 12, 3). Марыя праз сваю веру стала Маці веруючых, дзякуючы Якой усе народы зямлі атрымалі Таго, Хто ёсьць самім благаславенствам Бога: "Благаслаўёны плод улоньня Твайго, Езус".

*2677* ***"Сьвятая Марыя, Маці Божая, маліся за нас..."*** Зьдзіўляемся разам з Эльжбетаю: "Скуль жа мне гэта, што Маці майго Пана прыходзіць да мяне?" (Лк 1, 43). Даючы нам Езуса, свайго Сына, Марыя ёсьць Маці Божая і наша Маці; мы можам Ёй даверыць усе нашы беды і просьбы. Яна моліцца за нас гэтак, як малілася за сябе: "Няхай станецца мне паводле слова Твайго!" (Лк 1, 38). Дасылаючы Ёй малітвы, аддаемся разам з Ёю на волю Бога: "Будзь воля Твая".

***"Маліся за нас, грэшных, цяпер і ў хвіліну сьмерці нашай"***. Просячы Марыю, каб малілася за нас, мы бачым сябе беднымі грэшнікамі і зьвяртаемся да міласэрнай Маці. Давяраемся Ёй "цяпер", у сёньняшнім дні нашага жыцьця. Наш давер пашыраецца аж да даручэньня Ёй ужо цяпер "хвіліны нашае сьмерці". Молімся, каб прысутнічала пры ёй, як пры сьмерці свайго Сына на крыжы, а ў хвіліну нашага прыходу прыняла нас, як наша Маці, каб правесьці да свайго Сына Езуса, да раю.

*2678* На Захадзе сярэднявечная набожнасьць пашырыла малітву ружанца, уводзячы яе як народную форму заміж Малітвы Гадзін. На Усходзе форма літанійная Akathistos і Paraklisis была набліжана да харавога oficijum у візантыйскіх Цэрквах, у той час, як армянская, каптыйская і сірыйская традыцыі аддавалі перавагу народным гімнам і песьням у гонар Маці Божай. Аднак у Ave Maria, у teotokionach, гімнах сьв.Яфрэма альбо сьв.Грыгора з Нарэка традыцыя малітвы засталася ў прынцыпе тая ж.

**Пераклад з польскай мовы А.Лойкі**







# ПЕРШЫ Ў ГІСТОРЫІ КАСЬЦЁЛА НА БЕЛАРУСІ

*Адразу пасьля Вялікадня арцыбіскуп Мінска-Магілёўскі кардынал Казімір Сьвёнтэк і біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Аляксандр Кашкевіч адбылі ў Рым, каб згодна закону каталіцкага Касьцёла зьдзейсьніць першы ў гісторыі архідыяцэзіі візіт ad limina Apostolorum, г.зн. паломніцтва да грабніцаў сьвятых Апосталаў. Гэты абавязак мае за сабою шматвяковую традыцыю і прадугледжаны Кодэксам Кананічнага Права. Традыцыя наведваньня Рыма біскупамі, адказнымі за свае партыкулярныя (мясцовыя Касьцёлы), бярэ пачатак ад вытокаў хрысьціянства. Біскупы заўсёды прыбывалі ў Рым, каб сваёю малітвою каля грабніцаў сьвятых Апосталаў і наведваньнем Сьвятога Айца – наступніка сьвятога Пятра – выказаць адзінства з усім паўсюдным Касьцёлам.*

*Ужо сінод 343 года абавязваў біскупаў інфармаваць Сьвятога Айца аб справах у іх дыяцэзіях. З цягам часу ўстанавіўся тэрмін – пяць гадоў, – за які неабходна было даць справаздачу і адбыць паломніцтва ad limina Apostolorum.*

*Візіт біскупаў з Беларусі – асаблівы, бо ён, як ужо адзначалася, першы за ўсю гісторыю Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Гродзенскай дыяцэзіі. Гэты візіт – яшчэ адно сьведчаньне адраджэньня каталіцкага Касьцёла на Беларусі, сьведчаньне таго, што ўрэшце жыцьцё яго ўваходзіць у свае нармальнае русла.*

*Наша рэдакцыя папрасіла Яго Эмінэнцыю кардынала Казіміра Сьвёнтка падзяліцца сваімі ўражаньнямі ад гэтага гістарычнага візіту.*

*Найперш мы папрасілі Яго Эмінэнцыю шырэй патлумачыць нашым чытачам сутнасьць і сэнс візіту.*

– Візіт ad limina Apostolorum – гэта значыць, візіт да грабніцаў Апосталаў, прадугледжаны Кананічным Правам як знак еднасьці і згуртаваньня партыкулярнага (мясцовага) Касьцёла асобнай краіны з паўсюдным Касьцёлам. І гэта асабліва бачыцца праз першы аспект ad limina, а менавіта праз наведваньне грабніцаў Апосталаў. Гэта не толькі сімвалічная, але і рэальная лучнасьць і ўдзел у паўсюдным Касьцёле. Дыяцэзіяльны біскуп наведвае чатыры касьцёлы Рыма, чатыры базылікі, якія можна назваць галоўнымі базылікамі для ўсяго Касьцёла на зямным шары. Біскуп распачынае візіт ad limina Apostolorum з адпраўленьня Сьв.Імшы пры грабніцы сьвятога Пятра, ці, дакладней, у маленькай капліцы сьв.Клемянтына, пры алтары, што знаходзіцца найбліжэй да гроба сьв.Пятра. Адпраўленьне Сьв.Імшы ў гэтым месцы адразу ствараe адпаведны настрой – чалавек адчувае, што ён прыехаў да гробу сьв.Пятра скласьці справаздачу, выказаць сваю вернасьць і ўдзячнасьць Богу і Касьцёлу. Гэта першая частка візіту. Другая распачынаецца на наступны дзень з наведзінаў базылікі сьв.Паўла За Мурамі. І там таксама біскуп адпраўляе Сьв.Імшу пры грабніцы сьв.Паўла. Там зноў адчуваеш гэтае паяднаньне і ўдзел у вялікай місіі сьв.Паўла, у яго апостальстве. Трэці касьцёл – базыліка сьв.Яна на Лятэране. Першы пасьля сьв.Паўла – сьв.Ян Евангеліста. Як гэта глыбока прадумана, прадугледжана і ўстаноўлена. Адначасова гэта сьвятыня – катэдра Папскай дыяцэзіі. Менавіта там дыяцэзіяльным біскупам зьяўляецца біскуп Рыма, у гэтым выпадку – Папа. На фасадзе базылікі напісана, што гэты касьцёл – маці і галава ўсіх касьцёлаў: Urbi et Orbi – касьцёл горада і сьвету.

І ўрэшце на заканчэньне – чацьвёртая Сьв.Імша ў адной з найпрыгажэйшых базылік – у базыліцы Santa Maria Magiore. ТамСьв.Імша была адпраўлена ў капліцы Мадонны. Пасьля ўсіх чатырох Імшаў, пасьля малітваў у гэтых найбольш асьвечаных апостальскіх месцах і ў базыліцы Маці Божай Большай адразу разумееш значэньне і каштоўнасьць гэтага візіту, візіту біскупа партыкулярнага Касьцёла ў Касьцёле паўсюдным, у Апостальскай Сталіцы.

Другая частка візіту – наведваньне паасобных Кангрэгацый, у якіх адбываюцца сустрэчы, перадусім з прэфектам дадзенай Кангрэгацыі. Там дыскутуюцца і агаворваюцца пэўныя праблемы, робяцца вывады, даюцца папярэджаньні, папраўкі, абмяркоўваюцца праекты тэмаў, якія мы прапаноўвалі ў нашых справаздачах яшчэ ў мінулым годзе. Цяпер гэтыя праекты былі зьвераны і да іх былі зроблены

пэўныя заўвагі. У сярэднім такія сустрэчы ў Кангрэгацыях займалі прыкладна паўтары гадзіны.

Акрамя таго, з біскупам Аляксандрам Кашкевічам мы яшчэ мелі сустрэчу ў Сакратарыяце Стану. Праўда, яна не была прадугледжана рамкамі візіту ad limina Apostolorum, але па маёй просьбе гэта сустрэча адбылася, і была яна вельмі плённай і карыснай для ўсяго партыкулярнага Касьцёла на Беларусі.

І, нарэшце, кульмінацыйная, трэцяя частка – візіт біскупаў да Папы. Пасьля ўсіх справаздачаў, пасля ўсіх Сьвятых Імшаў кожны біскуп сустракаецца самнасам з Папам. Прадугледжана 15 хвілін аудыенцыі. Пра тэматыку гэтай сустрэчы ведаюць біскуп і Папа. Скажу толькі, што галоўным момантам сустрэчы было ўручэньне Папам Пасланьня Яго Святасьці да біскупаў Беларусі...

*— Мы надрукавалі ў №4-5 "Каталіцкіх навінаў" гэтае Пасланьне Сьвятога Айца і Зварот Вашай Эмінэнцыі і біскупа А.Кашкевіча да Яго Сьвятасьці. Але хацелася б ведаць, якія моманты з Пасланьня Вы найбольш вылучаеце?*

– Гэта даволі аб'ёмнае Пасланьне, якое займае 7 старонак друкаванага тэксту. У ім зьвяртаюць на сябе асаблівую ўвагу два выразы Папы, якія былі шырока падхоплены прэсаю, радыё і тэлебачаньнем. Гаворачы пра Касьцёл на Беларусі пасьля гэтых пяці гадоў адраджэньня, Папа назваў яго "знакам надзеі". Я мяркую, што Папа меў на ўвазе знак надзеі не толькі для Беларусі, але для ўсяго каталіцкага Касьцёла на сьвеце. І яшчэ: Папа назваў Касьцёл на Беларусі вясною, спасланаю Богам пасьля доўгай цяжкай зімы камунізма і атэізма. Гэтыя два кароткія выразы вельмі дакладна адлюстроўваюць гісторыю мінулых пяці гадоў жыцьця Касьцёла на Беларусі. Акрамя таго, трэба адзначыць, што Пасланьне Сьвятога Айца грунтуецца на нашых справаздачах. Я мяркую, што яго можна лічыць своеасаблівую дырэктываю на будучыню. Вельмі выразна выказаўся Папа па праблеме адносінаў Каталіцкага Касьцёла з Праваслаўнаю Царквою. Папа тут вельмі ясна падкрэсліў, што абсалютна няслушным зьяўляецца прыпісваньне Каталіцкаму Касьцёлу і каталіцкім сьвятарам на Беларусі якогась празелітызму альбо місіянерства. Каталіцкія сьвятары на Беларусі вядуць душпастырскую працу з тымі, хто прагне Евангельля, Слова Божага і каталіцкай веры. Гэтыя і іншыя выказваньні Папы прадстаўляюць справу проста і выразна, і за гэта мы яму вельмі ўдзячны, бо атрымалі падтрымку найвышэйшага аўтарытэту – галавы Каталіцкага Касьцёла. Мы можам заўсёды на яго спасылацца.

*— А як была ацэнена праца каталіцкага Касьцёла на Беларусі ў Кангрэгацыях?*

– З радасьцю хачу падкрэсліць той факт, што ва ўсіх Кангрэгацыях, у якіх мы мелі сустрэчы, каталіцкі Касьцёл на Беларусі атрымліваў словы прызнаньня і не раз выклікаў здзіўленьне, што за 5 гадоў столькі пасьпеў зьдзейсьніць пасьля гэтулькіх гадоў атэізму. Калі я гэта гавару, то, зразумела, не маю на ўвазе ані сябе, ані біскупа Кашкевіча, а маю на ўвазе ўвесь партыкулярны Касьцёл на Беларусі. А, значыць, усіх святароў, усіх законьнікаў і законьніц, і, можа, перадусім люд Божы на Беларусі, які, нягледзячы на дзесяткі цяжкіх і страшных гадоў, выстаяў, зьбярог веру ў Бога і сёньня адраджаецца, сьмела, адважна і пасьлядоўна стараецца ўводзіць у жыцьцё Слова Божае, Евангельле і навуку каталіцкага Касьцёла. Я мяркую, што без дапамогі Папы мы не дасягнулі б за 5 гадоў таго, што мы сёньня маем. Ён быў ініцыятарам, натхняльнікам, ён кіраваў усім працэсам і нам лягчэй было ўсё гэта рэалізоўваць, адчуваючы пастаянную айцоўскую апеку, клопат і дапамогу.

*— Ваша Эмінэнцыя, зразумела і тое высокае хваляваньне, якое перажылі Вы з біскупам Аляксандрам Кашкевічам у Апостальскай Сталіцы, і тая вялікая напружаная праца, якой патрабавалі ад Вас справаздачныя сустрэчы ў Кангрэгацыях, але ўсё ўжо гэта за плячыма. Вы зноў на Беларусі і зноў пагружаны ў складаныя праблемы мясцовага Касьцёла, у свае штодзённыя біскупскія клопаты і трывогі...*

– Так, ужо на наступны дзень пасьля вяртаньня ў мяне быў выезд у парафіі архідыяцэзіі. Пачалася звыклая штодзённая праца, цяжкая, але якая прыносіць задавальненне, асабліва цяпер, пасля візіту ad limina Apostolorum. Цяпер асабліва адчуваеш, што трэба працягваць гэту справу, трэба выконваць свае абавязкі, трэба будаваць Хрыстовае валадарства на гэтай, такой не раз змучанай, зямлі. Трэба абвяшчаць Евангельле, праводзіць евангелізацыю, катэхізаваць, дапамагаць людзям набліжацца да Бога, і, як сказаў Папа, адкрываць дзьверы Хрысту. Адкрываць насьцеж, для ўсіх без выключэньня.

***Падрыхтавала К. Л.***

Матэрыялы візіту ad limina Apostolorum чытайце ў "Каталіцкіх навінах" №№4-5/1997.



У часе візіту *ad limina Apostolorum*.
Фотаздымак прадастаўлены рэдакцыяй газеты "L`Osservatore Romano".





*ВЕРА НА ШТОДЗЕНЬ*

Кс. Альгерд НАСАЛЬСКІ МІС

# ПАЧАЦЬ З СЯБЕ

***Якім чынам добра спавядацца?***

Як ратаваць чалавецтва ад нянавісьці, як вярнуць сьвету спакой?

Мы ўсе — адна вялікая сям'я. Нашыя сэрцы, поўныя любові і спакою, могуць тушыць ваенныя пажары. Мы вернем сьвету здароўе, калі самі станем людзьмі спакою, калі кожны з нас, як частка вялікага арганізму чалавецтва, выкіне з сэрца ўсялякую злосьць, нянавісьць і цемру граху. Папросім жа Марыю, каб Яна дапамагла нам запыніцца на хвіліну на тым сакрамэнце, які ахвяраваў нам Збавіцель, сакрамэнце, які дае спакой сэрца, нясе паяднаньне і згоду. Гэта сакрамэнт пакаяньня і паяднаньня, сакрамэнт споведзі.

Пасьля ўваскрэсеньня Пан Езус прыйшоў да сваіх вучняў і сказаў: "Мір вам". Менавіта тады Ён устанавіў сакрамэнт паяднаньня словамі: "Прыміце Духа Сьвятога! Каму адпусьціце грахі, таму будуць адпушчаны; на кім пакінеце, на тым застануцца" (Ян 20, 22-23). Калі мы будзем рабіць гэта, то станецца так, што кожны з нас будзе ўдзяляць сьвету спакой і любоў проста са свайго сэрца. Часта споведзь не выконвае патрэбнай ролі ў нашым жыцьці з прычыны руціны, будзённасьці, браку падрыхтоўкі. Ёсьць людзі, якія ідуць да споведзі, бо чуюць цяжар граху, хочуць навесьці парадак у сваіх стасунках з Богам. Найперш яны думаюць аб сабе. Для такіх вернікаў споведзь можа стацца толькі сродкам паляпшэньня самаадчуваньня: яны пастаянна думаюць аб сваім граху і пасьля разграшэньня не атрымліваюць поўнай радасьці, якую можа прынесьці гэты сакрамэнт. Ідучы да споведзі, думай найперш аб Хрысьце, аб тым, што гэта найперш Яму ты нанёс раны сваімі грахамі. Яго раны крывавяць, і ты прыходзіш да споведзі, каб яны маглі загаіцца. Не засяроджвайся на сваім граху, але на Божай Міласэрнасьці, на прабачэньні, якое Добры Айцец удзяляе свайму дзіцяці.

Цесныя рамкі гэтага артыкула не дазваляюць дакладна акрэсьліць пяць варункаў добрай споведзі. Прынамсі, назавем іх.

***Варункі добрай споведзі***

<u>Першы варунак</u> споведзі — рахунак сумленьня. Трэба задумацца над сваім жыцьцём. І першае пытаньне задай сабе такое: якое месца ў тваім жыцьці займае Езус Хрыстус? Ці найважнейшы Ён для цябе? Ці да Яго кіруеш ты ўсё, што робіш, кажаш, вырашаеш? Альбо, можа, Хрыстус знаходзіцца дзесьці на другім плане ў тваім жыцьці? Можа, не Ён зьяўляецца найбольшай вартасьцю твайго сэрца? Зрабі рахунак сумленьня ў цішыні, дзесьці на адзіноце. Найлепш — перад крыжам Хрыста.

<u>Другі варунак</u> — жаль за грахі. Гэта вельмі важная ўмова. Ад яе залежыць вартасьць споведзі. Выкарыстай час непасрэдна перад самой споведдзю, каб узбудзіць гэты жаль. Ён адчыняе сэрца на Божую ласку. Жаль за грахі — варунак нашага навяртаньня. Ты добра захаваеш іншыя варункі, калі будзеш па-сапраўднаму шкадаваць аб учыненых грахах.

<u>Трэці варунак</u> — моцная пастанова выправіцца. Гэта пастанаўленьне волі, што з Божай дапамогай ты адварочваешся ад граху, адкідваеш ад сябе ўсялякую магчымасьць злога. "Не хачу больш чыніць зло і таму прымаю канкрэтныя планы, як гэта зрабіць".

<u>Чацьвёрты варунак</u> — шчырая споведзь. Трэба, прынамсі, прызнацца ў цяжкіх грахах: учынках, якія супраціўляюцца волі Божай у важных рэчах, сьвядомых і добраахвотных. Грахі штодзённыя, якія паўтараюцца, таксама трэба назваць, бо яны могуць прывесьці да цяжкіх грахоў.

<u>Пяты варунак</u> — кампенсацыя Пану Богу і бліжняму. Гэты варунак нагадвае нам

аб кампенсацыі Пану Богу за брак любові з нашага боку. Выказваем яе штодзённай малітвай, шчырым удзелам у сьвятой Імшы, памятаючы аб тым, што ва ўсім мы павінны аддаваць Богу хвалу і шукаць Яго волі. А на чым будзе заснаваная кампенсацыя бліжняму? Тут кожны павінен абдумаць сваю ўласную сітуацыю. У рэальнасьці мы ніколі не кампенсуем сваіх грахоў, але праз нашу добрую волю і стараньні адкрываемся за збаўленчую любоў Хрыста.

***Паяднаньне з іншымі***

Гэта нібыта шосты варунак добрай споведзі, які непасрэдна зьвязаны з будовай спакою ў сьвеце. Падставай праўдзівага спакою і згоды паміж народамі зьяўляецца спакой сэрца, усьведамленьне братняй лучнасьці з іншымі людзьмі. Як прынесьці спакой на сьвет? Трэба пачаць з сябе. Са сваёй сям'і, з найбліжэйшага кола суседзяў.

Паўторым сабе яшчэ раз! Не будзе спакою на сьвеце, калі нашыя сэрцы будуць поўніцца нянавісьцю, нелюбоўю да другога чалавека. Калі не навучымся прабачаць, калі не прынясем згоду ў нашыя сем'і, калі не будзе яе сярод суседзяў і знаёмых. Гатоўнасьць да прабачэньня павінна быць нашым навыкам, кліматам нашага жыцьця. Сьвяты Пётр пытаўся ў Збавіцеля, колькі разоў трэба прабачаць. І пачуў адказ, што трэба прабачаць заўсёды, бясконца. Прымірэньне з другім чалавекам, прабачэньне тым, хто перад табой вінаваты, а можа, і просьба прабачыць — усё гэта абавязкова дзеля таго, каб атрымаць прабачэньне ад Бога. Можа таму і бывае, што сакрамэнт пакаяньня і паяднаньня не мае выніку, бо не стае гэткага паяднаньня і прабачэньня. Няма сумненьняў, што гэты варунак трэба абавязкова выконваць. Бо гэта шосты варунак добрай споведзі.

Калі Пан Езус навучаў малітве "Ойча наш", Ён сказаў і гэтыя важныя словы: "...адпусьці нам грахі нашы, як і мы адпускаем вінаватым нашым". Таму калі ты не прабачыш — не можаш ісьці да споведзі. Калі не прабачыш, то як ты можаш маліцца "Ойча наш"? Гэта так, нібы ты казаў бы: "...не адпушчай нам грахоў нашых, бо і я не магу адпусьціць сваім вінаватым". Зразумела, што часам застаецца пачуцьцё крыўды на чалавека, які нас пакрыўдзіў, і не адразу магчыма тое забыць, аднак, прабачэньне павінна ўдзяляцца актам добрай волі адносна Бога.

***Цяжкасьці з паяднаньнем***

Часта можна пачуць: "Яна ж маладзейшая, яна мяне абразіла, дык няхай і пераросіць мяне". Пан Езус, спрадвечны Бог, старэйшы за ўсіх нас, але памёр за нашыя грахі і прасіў прабачэньня за нас у свайго Айца! Ён нават на крыжы маліўся за тых, што Яго ўкрыжавалі: "Ойча, прабач ім, бо не ведаюць, што чыняць". Калі ты прабачаеш і тым самым прыносіш згоду, то тым самым цешыш сэрца нашай Маці, якая так моцна прагне паяднаць усіх нас са сваім Сынам.

Часам можна пачуць такое тлумачэньне: "Я не гневаюся, але размаўляць з ёю (ім) не буду". Гэта не сапраўднае прабачэньне. Прынамсі, словам альбо жэстам, а можа, нават дробнай паслугай трэба паказаць, што ты ўжо не крыўдуеш.

Ёсьць такая французская прыказка: "Прабачыць — гэта значыць, зразумець". У жыцьці бывае так, што чалавек, які пакрыўдзіў цябе, можа нават не разумець таго, што ён зрабіў. Можа, ён атрымаў гэткае выхаваньне і не можа рэагаваць інакш. Трэба ўсьвядоміць, што калі б Бог адступіў ад цябе са сваёй дапамогай, ласкай, якая падтрымлівае цябе, то быў бы ты яшчэ горшы. Урэшце, паглядзім на Пана Езуса, на Яго Крыжовы Шлях. І тады нам будзе лягчэй прабачыць. І нарэшце: Бог прабачае нам нашыя грахі, то чаму мы не можам прабачаць нашым вінаватым?

Маці Божая! Вядзі нас да добрай споведзі. Дапамагай нам поўнасьцю карыстацца сакрамэнтам пакаяньня і паяднаньня. Тады мы найбольш прычынімся да будовы спакою ў сьвеце.

**Часопіс "Różaniec", № 5, 1996г.**
**Пераклад І.СТУДЗЕНЬСКАЙ**









# Каралева Палесься, маліся за нас!..

Сёлетні май у каталіцкім Касьцёле на Беларусі багаты на ўрачыстасьці. Здаецца, толькі нядаўна ў Пінскай катэдры адбылася сьвяточная інаугурацыя пілігрымкі Маці Божай Фацімскай па Беларусі, а ўжо Лагішын гасьцінна запрасіў усіх на сьвята, якога так чакалі вернікі... Гэтае звычайнае на першы погляд мястэчка, адметнае не толькі сваёю гісторыяй. Трэба нагадаць, што Лагішын, які ў XVIIст. належаў Радзівілам, у 1643-1776гг. меў Магдэбургскае права і герб. Але найбольшую славу Лагішыну прынёс абраз Маці Божай Лагішынскай.

Ён цяпер знаходзіцца ў касьцёле сьвятых апосталаў Пятра і Паўла. "Вялікі мураваны лагішынскі касьцёл паставіў у 1664 годзе князь Станіслаў Альбрэхт Радзівіл. Гэты касьцёл меў цудоўны абраз Маці Божай, які глыбока ўшаноўвала мясцовая шляхта і ўсе вернікі. Нават сенат апекаваўся ім і з мэтаю "павелічэньня хвалы Божай" не раз выдаваў розныя прывілеі для лагішынскага касьцёла: напрыклад, у 1667г. звольніў яго маёмасьць ад усіх падаткаў", – пісаў пра сьвятыню ў 1912г. Ёзафат Жыскар у кнізе "Нашы касьцёлы".

Пасьля Студзеньскага паўстаньня, у 1866г., царскія ўлады перадалі лагішынскі касьцёл праваслаўным, якія яго разабралі і перанесьлі на могілкі. У 1897г. сьвятыня згарэла.

На касьцёльным пляцы праваслаўныя пабудавалі царкву і зьмясьцілі там цудоўны абраз Маці Божай.

Католікі нейкі час не мелі свае сьвятыні. Але ў 1908г., пасьля абвяшчэньня Талерантнага Указу, купілі новы пляц і на працягу чатырох гадоў збудавалі новы касьцёл...

Цудоўны абраз Маці Божай Лагішынскай, Каралевы Палесься, які знаходзіцца ў галоўным алтары Петрапаўлаўскага касьцёла, мае сваю гісторыю.

У часе шведскіх наездаў адзін з вайсковых аддзелаў затрымаўся ў Лагішыне. Афіцэр аддзелу, Галабурда, які хацеў вывезьці абраз, быў на пастоі ў сакратара горада Малішэўскага. Ён загарнуў абраз у палатно і паставіў каля дзьвярэй у сенях. Калі паступіў загад выступаць у паход, абраз застаўся за расчыненымі дзьвярыма. Малішэўскія занесьлі яго ў сьвятыню, дзе абраз у хуткім часе праславіўся шматлікімі цудамі. Асаблівае заступніцтва праявіла Маці Божая, калі ацаліла сьвятыню ад вялікага пажару, у часе якога згарэлі ўсе навакольныя дамы...

Доўгія гады абраз знаходзіўся ў праваслаўнай царкве. Але католікі не забывалі пра яго і прыходзілі маліцца да свае Каралевы Палесься, а між сабою называлі яго "наш абраз". Усьведамленьне гэтае было настолькі моцнае, што ў рэшце рэшт у 1938г. маладыя парафіяне-католікі таемна вынесь-

лі абраз Маці Божай з царквы і перанесьлі яго да свайго касьцёла. Абраз быў адноўлены і біскуп Казімір Букраба ўрачыста зьмясьціў яго ў галоўным алтары лагішынскага касьцёла...

З таго часу праз шмат выпрабаваньняў давялося прайсьці мясцовым каталікам. Але Маці Божая Лагішынская, іх верная апякунка і заступніца, не пакідала нікога без свае матчынай дапамогі. І яны заўсёды адказвалі Ёй сваёю глыбокаю вераю, пашанаю і любоўю.

Дзякуючы намаганьням арцыбіскупа Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі кардынала Казіміра Сьвёнтка, абраз быў адноўлены і 1 студзеня 1997г. зноў урачыста перададзены лагішынскаму касьцёлу. А 10 мая адбылася вялікая ўрачыстасьць, прысьвечаная яго каранацыі. У ёй удзельнічала некалькі тысяч вернікаў. Сьвята распачалося ў 8.30 гадзінкамі да НПМ. А 9-й гадзіне адбылася. Сьвятая Імша з удзелам а.Юзафа Вайцяхоўскага fDP, які ў часе гаміліі падкрэсьліў, як важна, калі наша жыцьцё ідзе ў лучнасьці з Езусам, да Якога вядзе нас Марыя.

Пасьля ранішняй Імшы абраз Маці Божай Лагішынскай быў урачыста, з працэсіяй, перанесены да каранацыйнага алтара, устаноўленага на плошчы перад касьцёлам. Пачалося малітоўнае чуваньне, якое суправаджалася Марыйнымі сьпевамі ў выкананьні хораў, што прыехалі на сьвята не толькі з Беларусі, але таксама і з Польшчы.

А 12-й гадзіне распачалася ўрачыстая Сьвятая Імша. У ёй удзельнічаў Яго Эмінэнцыя ксёндз кардынал Казімір Сьвёнтэк, нунцый Апостальскай Сталіцы арцыбіскуп Дамінік Грушоўскі, ксёндз біскуп Эдвард Самсэль з Элка (Польшча), генерал айцоў-хрыстусоўцаў, правінцыяльны дырэктар айцоў-арыяністаў кс.Тадэвуш Шэшка, прэфект клерыкаў Гродзенскай духоўнай семінарыі кс.Раман Катлімоўскі, шматлікія сьвятары з усіх дыяцэзій Беларусі.

Гамілію прамовіў Яго Эмінэнцыя ксёндз кардынал Казімір Сьвёнтэк. Ён у прыватнасьці адзначыў, што на ўсёй зямлі вернікі шануюць Маці Божую і пакланяюцца Ёй, бо Яна – Маці Езуса Хрыста – нашага Збавіцеля. І Маці Божая выбірае некаторыя мясьціны на зямлі, слынныя Яе асаблівaю ласкаю. Такою мясьцінаю Маці Божая абрала таксама Лагішын на Палесьсі, каб адсюль выпраменьваць ласкі, патрэбныя для ўсіх, хто да Яе прыходзіць. З узрушэньнем і радасьцю кс.кардынал адзначыў, што сёньня яму даручана ганаровая місія – каранаваць абраз Маці Божай Лагішынскай, прыхільнікам якое ён зьяўляецца ўжо многія гады.

Пасьля гаміліі парафіянамі Лагішына былі ўрачыста ўнесены кароны і прачытана брэве на лацінскай, беларускай і польскай мовах. Кс.кардынал прамовіў асвячальную малітву. "*Божа, узглянь ласкава на тых, хто, увенчваючы каронамі абраз Хрыста і Яго Маці, вызнае, што Твой Сын ёсьць Валадаром сусьвету і просіць апекі Найсьвяцейшай Панны як Каралевы...*

*Няхай пакорным жыцьцём на зямлі яны заслужаць на ўзвышэньне ў небе, дзе Ты ўвенчваеш каронаю хвалы тых, хто Табе верна служыць...*" У асысьце арцыбіскупа Д.Грушоўскага, біскупа Э.Самсэля і правінцыяла кс.Т.Шэшка ён усклаў кароны на абраз.

Пробашч касьцёла кс.Мірaслаў Жлабінскі абвясьціў прысьвячэньне Пінскай дыяцэзіі Маці Божай Лагішынскай. Кс.Т.Шэшка выказаў вялікую ўдзячнасьць Сьвятому Айцу Яну Паўлу II, падзякаваў кардыналу К.Сьвёнтку, які, па волі Папы, выканаў каранацыю. Нунцый Апостальскай Сталіцы Дамінік Грушоўскі адзначыў, што ён вельмі рады ўдзельнічаць у гэтай Марыйнай урачыстасьці, і заахвоціў да яшчэ большага культу Марыі на гэтых землях.

З працэсіяй укаранаваны абраз Маці Божай Лагішынскай – Каралевы Палесься – быў унесены ў сьвятыню і ўстаноўлены на галоўным алтары. І на ўсю моц шчымліва і радасна гучала песьня, прысьвечаная Маці Божай Лагішынскай:

*Усе мы цяпер галовы схіляем,*
*Найсьвятой Паньне малітвы складаем:*
*Упрасі Свайго Сына ў небе*
*Ратаваць нас у кожнай патрэбе...*

***Паводле хронікі Лагішынскага касьцёла***



*Маці Божая Лагішынская,*
*Каралева Палесься,*
*маліся за нас!*

## АКТ ПРЫСЬВЯЧЭНЬНЯ ПІНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ МАЦІ БОЖАЙ ЛАГІШЫНСКАЙ

**Найсьвяцейшая Панна ў лагішынскім абразе, цудамі і ласкамі слынная!**

**Узглянь, сёньня стаіць перад Табою Пінская дыяцэзія са сьвятарамі, законьнікамі, законьніцамі і верным людам.**

**У Твае Матчыны далоні складаем наша мінулае, наш сёньняшні дзень і будучыню нашу. Нясем Табе, Маці цудоўнай Любові, мучаніцкую кроў сьв.Андрэя Баболі, гераічнасьць дабрадзейнасьцяў першага біскупа Пінскага Слугі Божага Зыгмунта Лазінскага, шасьцідзесяці пяці сьвятароў Пінскай дыяцэзіі, замучаных у турмах і лагерах, цярпеньні вывезеных людзей, боль вернікаў, пакінутых без пастыраў, у якіх сілаю забралі касьцёлы; смутак тых, хто не мог слухаць Евангельля і прымаць сьвятыя Сакрамэнты.**

**Маці Балесная, Ты, якая столькі плакала пад Крыжам, прымі і асьвяці сьлёзы тых, хто ад няверуючых зносіў нечалавечыя цярпеньні і прыніжэньні. Далучы іх цярпеньні да келіха мукі Сына Твайго і ўчыні, каб яны выпрасілі для нас спакой і поўную свабоду публічнага веравызнаньня.**

**Каралева Палесся, у Твае апякунчыя абдымкі складаем сёньняшні дзень Пінскай дыяцэзіі. Паглядзі, о Маці, як адраджаюцца парафіі, як адбудоўваюцца касьцёлы, як старанна дзеці вучацца рэлігіі, а моладзь знаходзіць дарогу да Езуса. Узглянь на ахвярную працу сьвятароў, законьнікаў і законьніц; на нашу духоўную семінарыю. Паглядзі, як шмат дзяцей, моладзі і дарослых прыступае да сьвятых Сакрамэнтаў.**

**У Тваe Матчыны далоні складаем мы нашу будучыню: дзяцей пад сэрцам маці, каб ніводнае з іх не загінула, дзяцей і школьную моладзь, каб пачулі заклік Хрыста — ідзі за Мною! Бацькоў, каб былі вернымі сужэнскай прысязе і выхавалі сваіх дзяцей у духу веры і любові да Бога і бліжняга. Дай, каб не было ўжо на гэтай зямлі войнаў. Учыні, каб беларусы, палякі, расіяне і іншыя народы любілі адзін аднаго як браты. Каб ужо ніколі за любоў да Айчыны і за веравызнаньне не трэба было зносіць цярпеньні.**

**Дай, о Панна Назарэтанская, каб вырастала новае пакаленьне людзей, адкрытых для Бога, людзей, якія захоўваюць Божыя запаведзі, якія, углядаючыся ў Цябе, наследуюць узор Твайго сьвятога жыцьця.**

**О Маці Найцудоўнейшая, Маці Касьцёла, прывядзі да еднасьці веры тых, хто Цябе яшчэ не ведае. Дапамажы знайсьці тых, хто заблудзіўся, распалі сэрцы вернікаў, каб абвяшчалі праўду пра Бога словам і чынам. Дапамагай маладым распазнаць паклíканьне да сьвятарства ці да манаскага жыцьця. Няхай Слуга Божы біскуп Зыгмунт Лазінскі дасягне хвалы благаслаўлёных і стане пры Табе, Марыя, як Вялікі Заступнік перад Айцом і Сынам і Духам Сьвятым. Амэн.**





*Лагішын. 10 мая 1997г.*
У часе ўрачыстасьцяў, прысвечаных каранацыі абраза Маці Божай Лагішынскай.









*Маладзечна. 17 мая 1997г.*
Кансэкрацыя касьцёла сьв.Юзафа.








СЬВЯТЫНІ БЕЛАРУСІ

# Фундамент – трывалы і надзейны

*17 мая, у суботу, напярэдадні сьвята Спасланьня Духа Сьвятога ў Маладзечне адбылася гістарычная падзея — кансэкрацыя новага касьцёла сьвятога Юзафа... Так лаканічна і строга можна было б занатаваць гэты надзвычай важны факт у жыцьці не толькі горада, але і ўсяе каталіцкай супольнасьці Беларусі. Можна было б... І ўжо адно гэта сказала б вельмі шмат кожнаму каталіцкаму сэрцу. Але перад вачыма зноў і зноў узьнікае ўбачанае і перажытае ў той сонечны майскі дзень і немагчыма не падзяліцца з табою, дарагі чытач, хоць бы маленькімі акрушынкамі радасьці, што перапаўняла сэрцы ўсіх сабраных на гэтай урачыстасьці.*

Здавалася, сама прырода падрыхтавалася да сьвята і не шкадавала людзям ні яркага сонца, ні буйной зеляніны, ні шчодрай квецені садоў, ні глыбокай сінечы неба, у якое так годна ўзьнесла свае прамяністыя крыжы новая сьвятыня.

Мелядычныя бомы званоў і прыгожы сьпеў хораў яшчэ да пачатку набажэнства здолелі стварыць атмасферу асаблівай узьнёсласьці і малітоўнасьці духу.

Вялікая сьвятыня не месьціла ў той дзень усіх сабраных, бо радасьць мясцовых католікаў прыехалі разьдзяліць вернікі з іншых парафій, шматлікія сьвятары з усяе Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, прыйшлі таксама праваслаўныя маладзечанцы, прадстаўнікі іншых канфесій... І ва ўсіх на тварах прамянілася радасьць, як бы сапраўды Дух Сьвяты распасьцёр свае крылы над сьвятыняю і ўліў у кожнае сэрца пачуцьцё дабрыні, еднасьці і згоды...

Урачыстасьць распачалася пранікнёнымі словамі прывітаньня. Яны гучалі з вуснаў удзячных парафіянаў і былі зьвернуты да арцыбіскупа Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі кардынала Казіміра Сьвёнтка і да пробашча касьцёла ксяндза дзекана Эдмунда Даўгіловіча-Навіцкага. Гэта найперш дзякуючы яго стараньням, яго ахвярнасьці і руплівасьці пабудаваны касьцёл сьвятога Юзафа ў Маладзечне. Чатыры гады жыцьця і напружанай працы аддадзена ўзьвядзеньню сьвятыні. А сам ён, ксёндз дзекан Даўгіловіч-Навіцкі, выпускнік Рыжскай духоўнай семінарыі, які ў канцы мая адзначыў 19 гадоў сьвятарства, 14 з іх прысьвяціў душпастырскай паслузе на Беларусі. Працаваў у Красным, Даўгінаве... цяпер вось у Маладзечне і Вілейцы.

Несумненна, сэрца ксяндза Эдмунда ў той дзень таксама перапаўняла радасьць. І не толькі ад таго, што нарэшце яго вялікая парафія пасьля стольках гадоў туляньня па чужых вуглах (здымалі памяшканьне пад капліцу і плацілі вялікія грошы ў клубе чыгуначнікаў, у музычным вучылішчы, дзе раней мясьціўся раённы КДБ, у аўтапарку) мае сваю цудоўную сьвятыню. Сьвятарскае сэрца радавалася яшчэ й жывому касьцёлу — выніку ахвярнага, самааддадана душпастырства. Бо гэта з яго айцоўскага благаслаўленьня сьвятарскі шлях абрала 11 мясцовых юнакоў. (Трое з іх ужо атрымалі сьвятарскія пасьвячэньні). Бо ў ягонай парафіі Сьвятую Камунію ў нядзелю і сьвяты прымае 500-600 вернікаў. Бо на кожнай Сьвятой Імшы ён, пробашч, бачыць не толькі жанчын і бабулек, але і шмат мужчын, дзяцей, моладзі...

А павага і аўтарытэт, якімі карыстаюцца каталіцкія парафіі ў Маладзечне і Вілейцы сярод праваслаўных — яшчэ адно сьведчаньне і разумнага душпастырства, і здольнасьці да дыялогу, да сапраўднага хрысьціянскага братэрства, якое так патрэбна ў нашым краі...

І, пэўна, таму ў сэрцах бацькоў ксяндза Эдмунда, якія прысутнічалі на ўрачыстасьці, у сэрцах пані Веранікі і пана Ігнацыя было ў той дзень не толькі радаснае ўзрушэньне, але і

гонар за сына, і адчуваньне вялікага бацькоўскага шчасьця... А сам ён, вітаючы ўсіх прысутных, быў лаканічны і нешматслоўны. Зьвяртаючыся да арцыбіскупа кардынала Казіміра Сьвёнтка, зазначыў, што яму многае хацелася б сказаць у гэты незвычайны, урачысты дзень. Але сама за сябе гаворыць сьвятыня, якую і духова, і матэрыяльна дапамагаў адбудоўваць парафіі арцыбіскуп...

"Я нястомна прасіў Усемагутнага аб гэтым шчасьлівым дні асьвячэньня касьцёла сьвятога Юзафа. Няхай жа ён стане пачаткам нашага новага жыцьця ў Хрысьце..."

Незабыўны, адзін з найважнейшых момантаў урачыстага набажэнства — кансэкрацыя алтара, стала Панскага, на якім з гэтага моманту заўсёды будзе зьдзяйсьняцца бяскроўная Сьвятая Ахвяра...

У сваім казаньні арцыбіскуп Мінска-Магілёўскі кардынал Казімір Сьвёнтэк вярнуўся памяцьцю да часоў свае вучобы ў духоўнай семінарыі, калі ён клерыкам праводзіў семінарыйныя канікулы ў Маладзечне. У той час горад меў дзьве каталіцкія сьвятыні. А сёньня ад іх не засталося нават сьледу. Тыя, што іх нішчылі, спадзяваліся зьнішчыць разам і каталіцкую веру. Але яна выстаяла і перажыла сваіх ганіцеляў. Новая маладзечанская сьвятыня — лепшае таму сьведчаньне. "Як шкада нашых блізкіх, родных, прыяцеляў, — сказаў кардынал Сьвёнтэк, — якіх сёньня няма сярод нас. Як яны марылі пра гэты дзень, як бы хацелі сьвяткаваць яго разам з намі. Іх косьці, можа, дзесьці ў сібірскай тайзе альбо ў стэпах Казахстана ці ў іншых месцах вялізнага, страшнага Гулагу... Успомнім пра іх у сваіх малітвах... Яны таго заслужылі. Мы ж сёньня, каму Пан Бог даў шчасьце збудаваць такую цудоўную сьвятыню, павінны з глыбіні сэрца дзякаваць Усемагутнаму за ласку жыцьця, за тое, што ператрывалі перасьледаваньні, што выстаялі і захавалі ў сабе веру, што дачакаліся шчасьлівага дня пасьвячэньня свайго новага касьцёла... І калі ўжо знайшлі мы матэрыяльныя сродкі і магчымасьці для адбудовы такой сьвятыні, то павінны змагчы адбудаваць і сьвятыні сваіх душаў, каб быць да канца вернымі вызнаўцамі Бога і сапраўднымі хрысьціянамі, каб ва ўсёй паўнаце расьцьвітала тут хрысьціянскае жыцьцё..."

Апошнім хвалюючым момантам урачыстасьці было падпісаньне акта кансэкрацыі касьцёла. Свае подпісы паставілі пад ім арцыбіскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі кардынал Казімір Сьвёнтэк, пробашч касьцёла сьв.Юзафа ксёндз дзекан Вілейскі Эдмунд Даўгіловіч-Навіцкі, мэр г.Маладзечна Станіслаў Татарыновіч, архітэктар, інжынер будоўлі Тадэвуш Акуневіч, былы мэр горада Генадзь Карпенка, якому гэтая новабудоўля абавязана вялікаю падтрымкаю і дапамогаю...

Пасьля набажэнства, пасьля таго, як сьвятыня паволі апусьцела, можна было спакойна яе агледзець. Яна здалася яшчэ больш велічнаю і якоюсь сьцішана ўрачыстаю.

Яе пробашч, ксёндз Эдмунд, стомлены, але шчасьлівы, з удзячнасьцю гаварыў пра сваіх шчырых, адданых парафіянаў, пра тое, што ўсе працы па ўзьвядзеньні касьцёла ажыцьцяўлялі мясцовыя маладзечанскія будаўнікі і што маладзечанскія майстры, народныя ўмельцы выканалі таксама і стацыі Крыжовай дарогі, і велічны, прыгожы абраз Маці Божай Вастрабрамскай. А драўлянае ўкрыжаваньне ў галоўным алтары і фігуру Пана Езуса ў закрыстыі зрабіў чалавек глыбокай веры, парафіянін Ян Кадушкевіч.

Ксёндз Эдмунд расказаў і пра дольны касьцёл, які мы ў той раз не пасьпелі агледзець. Стаіць ён, аказваецца, на 407 палях, а, значыць, на вельмі моцным фундаменце. І гэта здалося надзвычай сімвалічным: фундамент касьцёла сьв.Юзафа ў Маладзечне сапраўды трывалы і надзейны. Няхай жа ён служыць вечна.

**Крыстына ЛЯЛЬКО**







*СЬВЯТЫНІ БЕЛАРУСІ*

# КАБ НЕ ПАЎТАРЫЛАСЯ МІНУЛАЕ



Абраз сьв.Казіміра ў Лагойску.

Дзіўнае адчуваньне зьявілася ў душы, калі я глядзела на будынак новага касьцёла ў Лагойску. Будова храма яшчэ не завершана, але ён падведзены пад дах і выглядае прыгожа і ўзьнёсла. Можна сказаць — велічна. Так, як павінна выглядаць сьвятыня. Але якоесь неакрэсьлена-трывожнае пачуцьцё не пакідала мяне. Чаму? Можа таму, што новы касьцёл узьведзены на месцы старога: зруйнаванага, расьцяганага па цагліне мясцовымі "рупліўцамі". Там жа, у сьвятыні, былі і грабніцы графоў Тышкевічаў — яе фундатараў. Яны таксама зьнішчаныя і апаганеныя мясцовымі вандаламі. Не засталося нават сьледу. І можа ўсьведамленьне зьдзейсьненага тут не так ужо і даўно, толькі нейкіх там чатыры дзесяткі гадоў таму, прыгнятала, не давала разьвінуць крылы радасьці ад таго, што цяпер бачылі вочы. Мне часта не дае спакою адна і тая ж думка: будуючы новыя сьвятыні, ці памятаем мы, што яшчэ зусім нядаўна маўкліва і пакорна дазвалялі нішчыць старажытныя храмы, узьведзеныя нашымі продкамі стагоддзі назад. Дазвалялі, а часам і дапамагалі, а часам нават стараліся мець з таго карысьць, цягаючы дадому цэглу і ўсё, што магло прыдацца ў хатняй гаспадарцы? Пэўна ж, не ўсе і не кожны. Але ж многія. І ў большасьці сваёй яны, гэтыя людзі, не прыляцелі на нашу зямлю з іншай краіны альбо з іншай планеты... Мы ўсё прывыклі апраўдваць абставінамі і часам. Але чамусьці апраўданьні гэткія актуальныя толькі тут, на Беларусі. Цяжка сустрэць штосьці падобнае ў якой-небудзь іншай краіне і сярод іншага народу. Зразумела, не беручы пад увагу нашу вялікую суседку...



Былы Лагойскі касьцёл XVIIст.

Цяпер, пішучы гэтыя радкі, гартаючы прыгожы альбом-хроніку новаўтворанай Лагойскай парафіі, пачынаю як бы глыбей разумець тое сваё, далёкае ад радасьці, пачуцьцё. Доўга ўглядваюся ў фотаздымак былога Лагойскага касьцёла. Абнесены мурам, у засені старых дрэваў, ён годна і ўрачыста ўзносіць свой крыж. Вечнасьцю вее ад яго сьветлых муроў. І немагчыма паверыць, што сьвятыні няма. Хіба толькі гадзіньнік на яе франтоне нагадвае пра незваротнасьць часу...

Побач са здымкам акуратным вучнёўскім почыркам занатаваны вехі жыцьця сьвятыні. А яно, жыцьцё тое, увабрала ў сябе не адно стагоддзе, распачаўшы сваю гісторыю ў 1604г. Фундатарам касьцёла быў прадстаўнік знатнага графскага роду Тышкевічаў — Аляксандр.

У 1654г. у часе вайны Масковіі з Вялікім Княствам Літоўскім касьцёл быў спалены, але хутка наноў адбудаваны.

У 1708г. сьвятыню зьнішчылі шведы.

Праз 70 гадоў за яе адбудову ўзяўся Антоні Тышкевіч. Закончыў будаўніцтва ў 1791г. яго сын Вінцэнці. У тым жа годзе касьцёл быў пасьвенчаны. А ў 1806г. Пій Тышкевіч упрыгожыў франтон храма гадзіньнікам, перанёсшы яго з мясцовай ратушы. У такім выглядзе касьцёл праіснаваў амаль да паловы нашага стагоддзя. Такім захаваў яго для нашчадкаў здымак...

А пасьля... Пасьля было ўсё, як звычайна: быў пакутны і ганебны шлях да нябыту. Ад старажытнай сьвятыні не засталося нічога. У канцы 80-х гадоў мясцовыя каталікі, паставіўшы на яе месцы крыж, пачалі змагацца за права ўзьвесьці на гэтым месцы


Крыж і алтар на месцы былога касьцёла св.Казіміра.

новы касьцёл. Ды руплівыя гарадскія праекцёры, аказалася, запланавалі менавіта тут узьвядзеньне 2-й чаргі гандлёвага цэнтра...

28 лютага 1991г. Лагойск наведаў тагачасны арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч і сустрэўся з мясцовымі ўладамі. Адбылося пасяджэньне райвыканкама, на якім пасьля доўгай дыскусіі было прынята рашэньне аб перадачы гэтага зямельнага ўчастка Лагойскай рыма-каталіцкай парафіі сьвятога Казіміра...

Пачаўся новы адлік часу ў жыцьці лагойскіх католікаў. Найбольш значныя яго вехі дакладна занатаваныя ўсё ў тым жа парафіяльным альбомехроніцы.

На каляровых здымках — вялізны катлаван пад фундамент будучай сьвятыні. Побач — невялічкая драўляная капліца, у якой ксёндз Уладыслаў Завальнюк, пробашч Мінскага касьцёла сьвятых Сымона і Алены, адпраўляе Сьвятую Імшу. Менавіта дзякуючы яму, Лагойская парафія рабіла свае першыя крокі, распачынала аднаўленьне рэлігійнага жыцьця...

2 красавіка 1993г. сюды ўпершыню наведаўся ксёндз Рышард Пешхала, місіянер ордэну Сьвятой Сям'і.

Прайшло чатыры гады, і тое, што ўбачылі тут мы, прыехаўшы сюды 4 сакавіка гэтага года на ўрачыстасьць Сьвятога Казіміра, — гэта ўжо вынік напружанай працы і вялікіх высілкаў менавіта яго, ксяндза Рышарда, пробашча Лагойскай парафіі. І гожы будынак новай сьвятыні, які звонку выглядае ўжо амаль завершаным, і новая плябанія, дабудаваная да капліцы, якая ў той дзень не зьмяшчала ўсіх, хто прыйшоў на ўрачыстую Сьвятую Імшу. А галоўнае — сама парафія, той жывы арганізм касьцёла, які найбольш яскрава сьведчыць пра паўнацэннасьць і трываласьць яго жыцьця.

На той урачыстай Сьвятой Імшы, услухоўваючыся ў дружны прыгожы сьпеў, бачачы натхнёных, засяроджаных на малітве вернікаў, цяжка было ўявіць, што гэтулькі гадоў людзі не мелі тут свае сьвятыні, былі пазбаўлены нармальнага рэлігійнага жыцьця...

Пасьля набажэнства мы сустрэліся з ксяндзом Рышардам і папрасілі яго расказаць пра сябе, пра свой сьвятарскі лёс і пра жыцьцё парафіі сьвятога Казіміра ў Лагойску.

Нічога няма ў гэтым лёсе надзвычайнага. Ён, напэўна, у многім тыповы для маладога чалавека з Польшчы, які сэнсам свайго жыцьця абраў сьвятарскае паклiканьне і місійную службу далёка ад свае радзімы. І ўсё ж лёс гэты незвычайны менавіта сваёю ахвярнасьцю і адданасьцю гэтаму служэньню. Ксёндз Рышард гаворыць пра сябе лаканічна і сьціпла, стараючыся канстатаваць адно толькі скупыя факты. Гаворыць на добрай беларускай мове.

Яго родная парафія Шчытна знаходзіцца за 100 км ад Вроцлава, зусім блізка ад чэшскай граніцы. Там працуюць сьвятары з ордэна Сьвятой Сям'і. Менавіта яны дапамаглі маладому хлопцу зрабіць выбар пасьля школкі, дапамаглі паступіць у навіцыят ў Бомбліне, што каля Познаня. На працягу году навіцыяту ішло выпрабаваньне сябе, адпаведнасьці і


Эскіз-праект новага касьцёла. Архітэктар М.Калечыц.


У часе будаўніцтва.

правільнасьці свайго выбару. Ксёндз Рышард гаворыць, што год той быў вызначальны ў ягоным лёсе...

У 1984г. ён склаў першыя законныя шлюбы і паступіў у духоўную семінарыю ў Казімежы Біскупім пад Конінам. Гэта блізка ад горада Лехэня, у якім знаходзіцца вядомы ў Польшчы Марыйны санктуарый. Там два гады вывучаў філасофію і чатыры гады — тэалогію. У 1990г. атрымаў сьвятарскае пасьвячэньне і пайшоў працаваць на парафію. Ма-






Лагойск. Працэсія ў дзень сьв.Казіміра.

рыў пра выезд на місіі, куды-небудзь далёка, скажам, у Папуа-Новую Гвінею...

Але акурат у той час іх, семярых выпускнікоў семінарыі, запрасіў у госьці на Беларусь ксёндз Валенты Новак з Новай Мышы. Яны прабылі тут 10 дзён.

Ксёндз Валенты паказваў ім свае парафіі, касьцёлы, якія рамантаваліся і адбудоўваліся...

Пасьля, праз нейкі час, з Беларусі прыехаў аднакурсьнік ксяндза Рышарда, ксёндз Яраслаў Зарадзкі, які ўжо год адпрацаваў у Новым Сьвержні пад Стоўбцамі. Ён распавядаў аб сваёй працы, аб тым, што на Беларусі вельмі патрэбны сьвятары... Так узьнікла цьвёрдае рашэньне ехаць менавіта сюды. Праз два месяцы просьба аб выезьдзе была задаволена правінцыялам. Ксёндз Рышард паступіў на курс беларускай мовы ў мясцовасьці Сьвятая Катажына пад Кельцамі. Ён цёпла, з удзячнасьцю ўспамінае сваіх настаўнікаў з Мінска Алеся Бяляцкага і Алесю Сёмуху...

Пасьля гэтага курсу кс.Рышард атрымаў накіраваньне ў Мінск. Тры тыдні працаваў у Мінскай катэдры, а потым выехаў у Лагойск. Напачатку было вельмі цяжка, бо першыя тры месяцы штодня прыходзілася езьдзіць у Мінск, каб адправіць Сьвятую Імшу ў Катэдры, спавядаць і зноў вяртацца ў Лагойск, дзе таксама чакала праца. Трэба было думаць пра будаўніцтва плябаніі і касьцёла, весьці нялрaстую душпастырскую працу ў самім Лагойску і ў адлеглых ад горада парафіях: у вёсках Корань і Юркавічы... Але неяк усё яно з часам наладзілася, зрушылася справа з будаўніцтвам. Ксёндз Рышард з удзячнасьцю гаворыць пра дапамогу арцыбіскупа Казіміра Сьвёнтка, пра падтрымку свайго правінцыяла а.Рабія, місіянераў Сьвятой Сям'і, пра замежныя каталіцкія арганізацыі Аўстрыі і Германіі, якія аказалі фінансавую дапамогу ў будове касьцёла. З асаблівай удзячнасьцю і цеплынёю пробашч згадвае ў размове сваіх парафіянаў, аўтара праекта касьцёла, архітэктара М.Калечыца, а таксама будаўнікоў Лагойскай МПМК-198, якія заўсёды вельмі адказна і прафесійна адносіліся да сваіх абавязкаў...

Чатыры гады жыцьця і напружанай працы далі свае вынікі.

Прыемна цяпер зайсьці пад высокія скляпеньні касьцельнага гмаху. І хоць засталіся тут яшчэ ўнутраныя работы: сталярка, тынкоўка, праводка электрычнасьці, але ўжо можна марыць пра іх завяршэньне дзе-небудзь пад восень...

Радасна на душы, калі бачыш плён свае душпастырскай працы. А ён выяўляецца найперш у тым, што ўсё больш людзей горнецца да касьцёла, усё больш становіцца тых, хто хоча ахрысьціць дзіця, узяць шлюб, па-хрысьціянску правесьці ў апошні шлях сваіх блізкіх...

Асаблівa хвалюе ксяндза Рышарда праблема душпастырства дзяцей і моладзі, бо гэта будучыня касьцёла. Штонядзелі ён стараецца арганізоўваць спатканьні з дзецьмі, сам праводзіць іх катэхізацыю...

Расьце і маладзее парафія сьвятога Казіміра ў Лагойску, а яе пробашч, ксёндз Рышард Пешхала, не шкадуе ні сіл, ні часу для ахвярнай самаадданай службы сваім парафіянам.

На разьвітаньне я спытала ў яго, пра што ён цяпер марыць, чаго найбольш жадае. Сьвятар усьміхнуўся і, не раздумваючы, сказаў: "Закончыць як найхутчэй будову касьцёла і каб ён заўсёды быў поўны..." А мне падумалася: і каб не спаткаў яго лёс сьвятыні, на месцы якой ён паўстаў. Каб ніколі не паўтарылася мінулае, каб ніколі рука чалавечая не замахнулася на сьвятое.

*Крыстына Лялько*


Будаўніцтва новага касьцёла амаль завершана.

Ірына ЖАРНАСЕК

# МІШКА-ФУТБАЛІСТ

**Апавяданьне**

Больш за ўсё на сьвеце Мішка любіць футбол. І вясну. За тое, што вясной пачынаецца футбольны сезон. Вось і сёньня на школьным стадыёне зьбяруцца хлопцы з Мішкавых Выселкаў ды суседняй Камянкоўкі. Ну й будуць жа рэзацца! Да таго часу, пакуль не сьцямнее настолькі, што мячыка не стане відно. Але трэба яшчэ пасьпець папярэдзіць усіх хлапцоў. Мішка каторы раз выганяе з падворка свой ладна падрапаны ровар. Ды што гэта? Хлопец ажно рот забыўся закрыць, убачыўшы той цуд. Ягоная бабуля Анэта, тая самая, якая ўжо з паўгода не выходзіла з хаты і якая яшчэ тыдзень таму зьбіралася паміраць, тая самая баба Анэта цяпер, па-сьвяточнаму прыбраўшыся, сунулася сабе па дарозе, абапіраючыся на кульбу. У другой руцэ яна трымала некалькі кветак белай цыбулькі, якая толькі што расьцвіла ў іхнім гародчыку.

— Куды гэта яна? — зьдзіўлена і нават крыху спалохана гукнуў Мішка да бацькі. Той стаяў на прызьбе, п'янавата зыбаўся на нагах, трымаўся за вушак, каб не пахіснуцца і не зваліцца ў вялікую калюжыну.

— А-а... Маліцца матка пайшла. Ці малы, ці стары, а як стрэліць што ў галаву! Ёсьць абразы ў хаце — маліся, колькі хочаш, дык не, ёй трэба да крыжа... А да таго крыжа — два кіламетры. Цьху! Маёвае яна, бачыш, не можа маліцца адна ў хаце. А па мне — якая розьніца?

Калі бацька "пад мухай" і зачынае разважаць — гэта надоўга. Мішка ціхенька павёў з двара ровар, каб потым порстка ўскочыць на яго і сiгануць па вёсцы. Абмінаючы бабу Анэту, весела загарлаў:

— Шпарчэй, бабуля! Памаліся там, каб мы сёньня выйгралі ў камянкоўцаў!

Бабуля прыпынілася, узьняла голаў, але, мабыць, не пазнала ўнука, а можа й не пачула. Мішка абляцеў Выселкі, кожнаму нагадаў, што збор праз паўгадзіны. Вяртаючыся, зноў сустрэў бабулю. Абапёршыся на кій, яна адпачывала і, прыжмурыўшы вочы, угледалася ў бок Камянкоўкі, да якой ёй трэба было неяк дайсьці. За гэты час бабуля прайшла ўсяго нейкіх метраў трыста. Ды якое там "прайшла" — прасунулася, можна сказаць.

Размінаючыся, Мішка на гэты раз чамусьці не зваўся да яе. Праехаў моўчкі. А яна й галавы не павярнула — зноў, мабыць, не пазнала ўнука. Мішка ад'ехаўся, ды штосьці змусіла яго азірнуцца. Бабуля стаяла паранейшаму, выпрастаўшыся, абапіраючыся дзьвюма рукамі на кій. На тле промняў заходзячага сонца яна раптам здалася нейкім дзіўным помнікам. І Мішку нечакана зрабілася сумна-сумна. Яшчэ летась бабуля тэпала сабе спакойна да камянкоўскага крыжа — туды й назад. Паціху, але ўсё ж тэпала. А сёлета? Як яна дойдзе туды сёлета? Усё гэта прамільгнула ў Мішкавай галаве і зьнікла — трэба было яшчэ крыху падсілкавацца перад футболам.

Бацька, усьпёршыся локцямі на стол, піў са жбана малако. Пасьля п'янкі яму нічога не трэба было, апрача кіслага малака. Мішку чамусьці адразу расхацелася есьці; ён крутнуўся туды-сюды па хаце, абуў кеды, выцяг з-пад ложка мячык, сунуў яго ў торбу.

— Ну, далёка там старая зайшла? — выцер бацька далонёй "вусы" ад малака.

— Далёка, — сказаў абы сказаць Мішка і шуснуў за дзьверы.

Выйшаў на дарогу, склаў стрэшкай далонь, прыціснуў да лоба, угледаючыся ў бок Камянкоўкі. Бабуля параўнялася ўжо з хатай Рубяжэвічаў, хутка й за Выселкі выйдзе. А там яшчэ больш кіламетра. Ну і што з ёй зробіш? Не пасадзіш жа на багажнік і не завязеш да таго крыжа. Мішка чмыхнуў, уявіўшы, як вязе ён на багажніку бабулю, як ссаджвае яе каля крыжа. Кепска, вядома, што бабуля ўжо гэткая нямоглая, але, з другога боку, добра, што бабуля, страціўшы свае сілы, стамілася да Мішкі прыставаць, каб і ён разам з ёй ішоў на тое Маёвае. А то ж было раней — з хаты ўцякаў. Мішка пасноўдаўся яшчэ трохі па двары ды ўрэшце зноў абжыргаў свой ровар. Пара!

Паволі Мішка амаль што ніколі не ездзіў — толькі са сьвістам у вушах. А тым больш — на футбол. Ужо за вёскай адумаўся, што не абмінаў бабулі. Тармазнуў так, што ледзьве не пераляцеў цераз руль. Азірнуўся — ззаду яе не было. Пагледзеў у бок Камянкоўкі — нікога на дарозе. Падвёз, мабыць, нехта – вырашыў Мішка і націснуў на педалі.

Крыж высіўся на ўскрайку Камянкоўкі. Высокі. Абнесены агароджай, у якой заўсёды была зеляніна альбо цьвілі кветкі. Мішка ведаў: мінаючы крыж, трэба пераажагнацца альбо зьняць шапку. Такі звычай. Так вучыла бабуля. Так рабілі многія. Але Мішка ніколі не жагнаўся і не здымаў шапкі. Быццам саромеўся кагосьці. Быццам баяўся, што хтосьці ўбачыць і пасьмяецца з яго. Нават тады саромеўся, калі побач нікога не было. Але дзіўная рэч: заўсёды ці то пешкі, ці то на роварах мінаючы крыж, Мішка памятаў — трэба пераажагнацца альбо зьняць шапку. Памятаў і... не жагнаўся, і шапка заставалася націсьненай на лоб. Толькі нібы цяжэла ды рабілася цеснаватай. І тады Мішка злаваўся: на недарэчную ўласьцівасьць шапкі, на ўсталяваныя некім звычаі, нарэшце, на гэты крыж, які паўставаў на ягонай дарозе і з якім гэтак няпроста было разьмінацца.

Крыж вырас у Камянкоўцы пры Мішкавай памяці. Дакладней, ён быў на гэтым месцы даўным-даўно, але потым яго сьпілавалі. Здарылася тое яшчэ тады, калі баба Анэта была маладой. Крыж сьпілавалі, а за ноч ён зноў вырас. Нібы з-пад зямлі ўзьняўся. Прыйшлі лесапільшчыкі і зноў сьпілавалі, забралі з сабой на калёсах, пасеклі на калкі. Ды нараніцы крыж зноў стаяў на тым жа месцы, а пры ім — вялікі вазон чырвонага мушкату. Па мушкаце і знайшлі таго, хто нанова ўстанаўліваў уначы крыж. Самыя высокія ды кашлатыя, на ўсё вакно, мушкаты цьвілі ў вокнах бабы Анэты. Да яе і завіталі суровыя людзі і запыталі, што робіць яе муж, а Мішкаў, значыць, дзед. А дзед у гэты час габляваў у сваёй сталярцы брусы для новага крыжа, які меціўся паставіць наступнай ноччу. Брусы так і не сталі крыжам — пасеклі на месцы. Дзеду за тое, што супраціўляўся ўладзе, абрэзалі соткі, і ён, бедачына, колькі гадоў потым блукаў з канторы ў кантору, шукаў праўду, выбіраў усё новыя даведкі, пісаў новыя і новыя просьбы ўзнавіць агарод.

Аб усім гэтым бабуля распавядала Мішку ў той дзень, калі ў Камянкоўцы асьвячалі новы крыж. Той самы, з якім цяпер Мішку цяжка разьмінуцца. Бабуля распавядала і выцірала насоўкай вочы, а Мішка слухаў, дзівіўся з выбрыкаў дзеда, верыў і не верыў пачутаму і нарэшце выказаўся: "Ну і хуліганісты ж быў мой дзед!" Бабуля на гэта адно пераажагналася ды ціхенька прашаптала: "Няхай Бог дае, каб і ты, мой унучак, толькі на гэткія хуліганствы быў здольны".

Яшчэ здалёк Мішка пачуў прыгожы ўрачысты сьпеў, які далятаў ад крыжа. Міжволі прытармазіў, паехаў цішэй. Перад крыжам кленчылі людзі і сьпявалі:

*Брама нябесная, за нас маліся,*
*Зорка раньняя, за нас маліся...*

Прыпыніўся. Убачыў Наташку Закрэўскую, хацеў папытаць, ці паехаў ейны брат Дзімка на футбол, але як ты яе запытаеш, калі тая Наташка разам з усімі сьпявае, уклечыўшы проста на пяску. Не стаў чапляцца, закінуў нагу на ровар і толькі ўжо зьбіраўся націснуць на педаль, як успомніў... Успомніў: сярод людзей не віднелася бабульчынай блакітнай хусткі. Яшчэ раз абвёў позіркам прысутных — не, бабулі не было. Рэзка крутнуў ровар, ускочыў на яго і на гэты раз не пачуў радасьці ад ветру, што сьвістаў напярэймы. На гэты раз вецер чамусьці лез у горла, Мішка давіўся ім і круціў педалі.

Бабуля сядзела на ўзбочыне канавы, прыхінуўшыся сьпіной да бярозы, нізка зьвесіўшы на грудзі галаву. Мішка саскочыў з ровара, шпурнуў яго проста на дарогу, не пачуў, як ён бразнуўся аб асфальт, як зашоргалі халастым ходам колы, быццам яшчэ некуды імчалі.

— Што, бабуля? — хрыпла гукнуў Мішка і прысеў побач.

Старая маўчала.

— Што? — паўтарыў Мішка, не знаходзячы іншых слоў.

Тая паволі ўзьняла голаў. Дзьве сьлязіны паўзьлі па маршчакаватым твары і расплываліся па зморшчынах, губляліся ў іх.

— Дрэнна стала? — дапытваўся Мішка. — Ну, не йшла б ты да гэтага крыжа!

— Не дайду ўжо... — шапнула бабуля, счакала і шапнула яшчэ: — Маёвае...

І Мішка раптам узгадаў, як чакала бабуля гэтага маю. Тады і ўвагі не зьвяртаў, а цяпер вось узгадаў, як яна яго чакала! Пасьля



Вялікадня бабуля часта ўздыхала: "Мне б толькі да Маёвага датрываць".

Датрывала. Прычакаўшы маю, бабуля сядзела цяпер пад бярозай, на якой толькі-толькі зьявіліся маленькія зялёныя лісточкі — як маўклівыя сьведкі таго, што сапраўды нарэшце чаканы май. Сядзела бабуля, глядзела на Мішку сумнымі вачыма, і яму чамусьці раптам здалося, што гэтыя вочы пачалі аддаляцца ад яго.

— Ты што, бабуля? — гукнуў сполашна Мішка.

Бабуля маўчала. Толькі ўглядалася на свайго ўнука, а вочы, ейныя вочы, па-ранейшаму плылі-адплывалі кудысьці ўдалеч.

І Мішка не змог больш цярпець гэтага аддаленьня.

— Ты, бабуля, пасядзі тут, — гукнуў ён, — я зараз...

Але старая разьняла сьціснутыя вусны, ледзь чутна папрасіла:

— Чакай...

І Мішка не змог аслухацца — затрымаўся. Чакаў. Бабуля заплюшчыла вочы — маўчала.

— Ды што ты!.. — не змог трываць гэтага цяжкога маўчаньня Мішка, але бабуля зноў затрымала яго — цяпер ужо не словам, але толькі слабым рухам рукі. І нейкая незразумелая сіла зноў змусіла Мішку схіліцца да старой.

— З'ездзі... да крыжа...

Словы былі ледзьве чутныя, але Мішка ўсё ж зразумеў іх. Зразумеў і тут ужо не мог не запратэставаць:

— Я толькі што быў там. Што табе цяпер аб гэтым думаць! Дахаты трэба! Альбо да доктара!

Баба Анэта зноў варухнула рукой з белымі кветкамі, падаючы і не могучы падаць іх Мішку.

— Ды ну!.. — упарціўся Мішка. — Потым!

Але бабуля адно глядзела на Мішку і моўчкі прасіла аб сваім. Яе вочы напоўніліся сьлязьмі, але вось яны сплылі па твары — вочы праясьнелі. Мішка зірнуў у іх і невядома чаму адразу згадзіўся:

— Добра. Калі ты гэтак хочаш...

Ён схапіў кветкі, ускочыў на ровар — паімчаў да крыжа. Наблізіўшыся, зразумеў, што людзі ўжо сьпяваюць нешта іншае. Спыніўся, кінуў ровар на ўзбочыну — падышоў бліжэй.

*О Матачка Ласкавая, маліся за нас!*
*Пачуй жа сваіх дзетачак у сумны час...*

Мішка раптам зморшчыўся і невядома чаго заплакаў. Стаяў, прыросшы да зямлі, узвышаўся над людзьмі, якія кленчылі перад крыжам, глядзеў на абраз Маці Божай у атачэньні кветак і... плакаў. Ведаў: трэба сьпяшацца, трэба хуценька пакінуць тут кветкі і несьціся назад — да бабулі, дахаты, шукаць доктара, шукаць нейкую машыну... Ды ногі раптоўна гэтак ацяжэлі — не зварухнуць. І неспадзявана Мішка, зусім не разумеючы таго, што робіць, апусьціўся на калені. Яму чамусьці раптам моцна-моцна захацелася, каб падзьмуў вецер і данёс гэты сьпеў да бабуліных стомленых вушэй. І можа таму, што жаданьне гэтае было вельмі моцнае, ён нечакана для сябе разам з усімі паўтарыў прыпеў:

*О Матачка Ласкавая, маліся за нас!*
*Пачуй жа сваіх дзетачак у сумны час...*





ПАЭЗІЯ



## Мар'ян ДУКСА

### Да Першай Камуніі

На старыя сьцены
зьзяе адусюль
белы мак сукенак,
белы сьнег кашуль.

І глядзіць праз хмары
сонейка ў акно.
Радасныя твары
сьвецяцца ажно.

Стала б сьветла ноччу,
калі б ноч была —
столькі зораць вочы
зыркага сьвятла!

Столькі прамяністых,
ясных шчочак-руж
і крынічна чыстых
маладзенькіх душ!

У якіх разьліта
шчырая любоў.
Першая малітва.
Сьвежы водар слоў.

Хваляваньня многа
шле арганны гуд.
І спатканьне з Богам —
найвялікшы цуд!

### Цьвіценьне саду

Аздоба якая
і пекнасьць якая,
калі перад хатаю
сад расьцьвітае.
Калі ў распагоджаны
ранак зацішны
успыхваюць
белаю пенаю вішні.
Калі загараюцца
ў промнях вясновых
жывыя пялёсткі
у яблынь ружовых.
Бясконцаю радасьцю
поўняцца душы,
калі закрасуюць
і сьлівы, і грушы.
Пануе між венцья
тут колер вясёлкі.
На кожнай галінцы
калышуцца пчолкі.
Сьпяваюць яны
пасярод прыгажосьці.
І кожнае дрэва
іх просіць у госьці.



### Сёмуха

Ва ўсіх кутках,
ва ўсіх кутках,
як сонца, сьвята сьвеціць.
Які стаіць у хаце пах
бярозавага вецья!
Дыхні: усюды ён чуваць —
якая асалода!
Са сьвятам
нас павіншаваць
прыйшла сама прырода.
Шапоча лісьцем навакол
ля весьніц,
над дзьвярамі.
Ступіла радасна ў касьцёл
з зялёнымі вянкамі.
І адчуваеш ясна ты
за храмавым парогам:
людзей вітае Дух Сьвяты,
спасланы сёньня Богам.
Да ўсіх дзяўчат і хлапчукоў
прыйшоў настрой вясёлы.
Між абразоў і між вянкоў
залёталі анёлы.

## Разам з Марыськай



### НЯСЁМ СВАЕ СЭРЦЫ МАРЫІ

*Думаю, сябры, вы гэтак жа любіце май, як і я. За тое, што ён вельмі прыгожы. За яго цяпло. За яго кветкі. А яшчэ за тое, што ў маі адбываецца набажэнства да Маці Божай. Яно так і называецца – Маёвае. Я заўсёды прыношу да алтара Маці Божай прыгожыя кветкі. А яшчэ мы разам з сябрамі штодня прыносім прыгожыя сэрцы, зробленыя сваімі рукамі. Сэрцы можна выразаць з тоўстай паперы і размаляваць, можна таксама напісаць на іх інтэнцыю, у якой ты молішся да Маці Божай. Мы з сябрамі нават спаборнічаем, хто найбольш прынясе для Марыі сваіх сэрцаў. І вельмі бывае прыемна, калі напрыканцы месяца ксёндз падлічыць усе нашыя сэрцы і акажацца, што многія прынесьлі па 31 сэрцы. Гэта значыць, што яны не прапусьцілі ніводнага Маёвага набажэнства. Напэўна ж, гэта цешыць Маці Божую.*

*Дарагія дзеці! Усім жадаю як найбольш цешыць Маці Божую добрымі ўчынкамі і як найменш засмучаць Яе. Няхай нашыя кветкі і сэрцы, прынесеныя на алтар Маці Божай, будуць заўсёды чыстыя і вельмі-вельмі прыгожыя!*

***Марыська***

**Ірына ЖАРНАСЕК**

# СПРЭЧКА АНЁЛАЎ

(казка)

IV

У наступную ноч Міхаська бачыў у сьне, як ягоныя анёлы паказвалі адзін аднаму языкі, абліваліся чарнілам, клеем і голасна рагаталі, тыцкаючы адзін на аднаго пальцамі.

— Дзі-і-лінь-лінь-лінь...

Падхапіўся. Сядзеў на канапе, цёр вочы і нічога не разумеў.

— Хі-хі, — дзесьці зусім побач.

— Дзе ты, Хіхік? — шапнуў Міхаська.

— Над тваёй галавой, хі-хі! Я толькі што выскачыў з твайго сна, у якім той брыдкі Блішчасьцік задзіраў нос і не жадаў прызнаваць маіх анёльскіх правоў. Але ж я і ўляпіў яму за гэта гразёй — будзе ведаць!

— Я-як? Ты быў у маім сьне? Ну так, сапраўды быў... Ой, як здорава!

І тады зьверху даляцеў дакорлівы голас:

— Твая гразь, Хіхік, не прыстала да маіх крылаў — не радуйся.

Хіхік заверашчэў:

— Ты зноў тут? Хоць ба на хвіліну пакінуў нас у спакоі!

— Чаго ты на яго сварышся? — прымірэнча заступіўся Міхаська за Бліскучага Анёла. — Ён жа нічога дрэннага не робіць.

Хіхік перавярнуўся колькі разоў у паветры — толькі замільгацелі ягоныя чорныя крылы — і плёхнуўся на свой улюбёны фатэль.

— Ты, Міхась, хутка мяне давядзеш! — залямантаваў ён адтуль. — Яшчэ трохі — і ты пачнеш павучаць мяне: "Вось гэта рабіць можна, а гэта — не". Ты мне яшчэ пальчыкам пасварыся: "Ну-ну, Хіхік! Нядобра!"

— О, калі б так сталася — я быў бы вельмі шчасьлівы, — узмахнуў крыламі Бліскучы Анёл.

— Во-во! Ты шчасьлівы — я няшчасны, я шчасьлівы — ты няшчасны.

Міхаська ў роспачы з размаху апусьціў абодва свае кулакі ў падушку.

— Але чаму так? Чаму вы разам не можаце быць шчасьлівымі? І я з вамі? Уяўляеце, як было б добра? Рай!

— Што-о-о? — залямантаваў штосілы Хіхік і ўзьвіўся над фатэлем: — Ф'ю-ю-ю!.. Хі-хі! Хо! Хі-хі!

Ён ірвануў быў да вакна, але потым перадумаў і вярнуўся. Ён лётаў з фатэля на жырандолю, потым на канапу, з яе — на тэлевізар. Міхаська ледзьве пасьпяваў за ім сачыць ды ў цемры распазнаваць, дзе цяпер Хіхік, — па ягоных усхліпах, галёканьні ды злосным хіхіканьні.

— Нічога не разумею, — усклікнуў Міхаська. — Растлумач нарэшце, чым я цябе пакрыўдзіў?

Але ад Хіхіка адно несьліся ўсё тыя ж гукі. Нарэшце ён прысеў на стол і даволі гучна стукнуў нагой:

— Не сьмей больш ніколі пры мне ўспамінаць рай! Чуеш?

— Але чаму?

І тут у адказ Міхаська нечакана пачуў ад Хіхіка вельмі горкае:.

— Бо мне... мне балюча ўспамінаць яго! Хліп... Хліп...

— Ус-па-мі-наць?! Значыць, ты быў у раі? І ведаеш, які ён? Там сапраўды ўсім-усім добра?

Але на Міхаськавы пытаньні Хіхік адно што крыкнуў:

— Змоўкні, я табе сказаў, са сваім раем!

І тады з таго кута, дзе на сьцяне вісеў абраз Маці Божай, на момант зазьзяла яркае сьвятло, і голас Бліскучага Анёла прамовіў:

— Так, Міхаська, ён быў у раі і ведае, што гэта такое.

— Вы згаварыліся! — зноў узьвіўся ў паветра Хіхік. — Згаварыліся супраць мяне! Але гэтак проста я вам не дамся, чуеце? Я яшчэ пакажу вам, дзе ракі зімуюць! Хі-хі!

І вылецеў у вакно.

— Што гэта з ім? — заплакаў Міхаська. — Чаго ён так раззлаваўся?

Бліскучы Анёл пакінуў нарэшце кут з абразамі, праляцеў туды-сюды па пакоі. Усюды, дзе ён ляцеў, цемра расступалася перад ім, даючы яму месца. Бліскучы Анёл прысеў на сьпінку фатэля і склаў крылы.

— Не плач, Міхаська. Сёньня ты добра папрацаваў, рыхтуючыся да заўтрашняй кантрольнай па матэматыцы. Цяпер табе трэба адпачыць. А заўтра я распавяду табе аб тым, што здарылася даўным-даўно, аб тым часе, калі зьявіліся злыя анёлы.

І Бліскучы Анёл усьміхнуўся. Ён усьміхаўся гэтак лагодна й зычліва, што ад гэтае ўсьмешкі Міхаську адразу зрабілася радасна і спакойна. Сьвятло анёлавай усьмешкі лілося на Міхаську, і хлопчык заплюшчыў вочы, як той кот Піліп, што любіць грэцца на санцапёку. Цёплы, спакойны сон агарнуў Міхаську. На гэты раз ён быў чамусьці афарбаваны ў блакітнае зьзяньне, сярод якога зрэдку мільгалі ружовыя, жоўтыя ды зялёныя колеры. І зусім не было чорных ды карычневых. Міхаська спаў і ўсьміхаўся ў сьне.

А за вакном скавытаў на розныя галасы ды біўся ў шыбы вецер. Ён сёньня ўсхадзіўся не на жарт — ажно дрыжэла і дробна-дробна стукала фортка. Нібы ад страху. Бліскучы Анёл пераляцеў да вакна, расправіў свае шырокія крылы і захінуў Міхаську ад ветру, што праз шчэлкі ірваўся ў пакой. Калі б Міхаська спаў не гэтак соладка, то, мажліва, пачуў бы скавытаньне таго ветру. І, мажліва, пачуў бы ў ім рэдкія ўсхліпы: "Хі! Хі-хі! Хліп! Хліп! Хліп! Ох! Хі-хі!".

Чаго ж гэтак плача Хіхік пад Міхаськавымі вокнамі? І чаму не вяртаецца ў ягоны пакой, а носіцца пад ветрам і дажджом, не могучы знайсьці спакою? І чаму няма ў яго аніякага жаданьня сесьці побач з Бліскучым Анёлам і таксама захінуць сваімі крыламі Міхаськаў сон ад сьцюдзёнага ветру?

А ўся прычына ў тым, што Міхаська за мінулы дзень нікому не пстрыкнуў па носе, нікога не ўшчыпнуў, нікому не набіў гузака, нават нікому не паказаў языка. Расхацелася чамусьці Міхаську рабіць усе гэтыя "подзьвігі". Здаліся яны яму раптам сумнымі і нецікавымі. І таму Хіхіку ўжо нязручна сябраваць з Міхаськам. Нязручна, сумна і... і... А яшчэ гэты Бліскучы Анёл!.. Ух, як Хіхік ненавідзіць яго!

Бліскучы Анёл ведае гэта, і яму таксама сумна. Бо здарылася тая спрэчка паміж анёламі не ўчора ці заўчора, і не сто, і не дзьвесьце, і не тысячу гадоў, а нашмат раней. Так-так... Сумная спрэчка анёлаў, якая з таго самага часу ні на хвіліну не спыняецца. Аб усім гэтым Бліскучы Анёл паабяцаў распавесьці Міхаську. І ён абавязкова гэта зробіць. А пакуль... Пакуль няхай Міхаська соладка сьпіць і бачыць свае ружова-блакітныя сны...

Працяг будзе.

(Працяг. Пачатак у №№10,11 за 1996г. і №1-2 за 1997г.)



## Міжнародная Асацыяцыя Жывога Ружанца

13 мая г.г. споўнілася 80 гадоў з дня аб'яўленьня Маці Божай траім дзецям-пастушкам у партугальскім горадзе Фаціме. З гэтай нагоды з 1 мая распачалася перэгрынацыя фігуркі Маці Божай Фацімскай па Беларусі. Маці Божая Фацімская прыйдзе ў кожную парафію нашай краіны. Чым, якімі ж падарункамі сустрэнем мы Найсьвяцейшую Марыю Панну? Безумоўна, галоўнай радасьцю для Яе будуць нашыя чыстыя, любячыя сэрцы, якія ахвяруюць Ёй малітву Сьвятога Ружанца. Малітву менавіта ў інтэнцыі трыумфу Беззаганнага Сэрца Марыі.

У многіх парафіях існуюць ружанцовыя суполкі. У іх людзі моляцца на ружанцы ў розных інтэнцыях: за каталіцкі Касьцёл, за сьвятароў, за сьвятарскія і законныя пакліканьні, за навяртаньне грэшнікаў, аб здароўі родных і блізкіх і г.д. Але часта мы забываем маліцца ў адной з самых важных інтэнцый — за трыумф Беззаганнага Сэрца Маці Божай, аб чым Яна вельмі прасіла ў Сваіх Фацімскіх аб'яўленьнях.

І вось цяпер у нас ёсьць магчымасьць далучыцца да Супольнасьці Сусьветнага Жывога Ружанца, які быў заснаваны яшчэ ў 1826г. благаслаўлёнай Паўлінай Марыяй Жарыко. Сёньня Асацыяцыя Жывога Ружанца аб'ядноўвае многія сотні тысяч вернікаў розных краінаў сьвету, у тым ліку больш за 5 тысяч чалавек з Беларусі. І кожны дзень іх становіцца ўсё больш і больш.

Жывы Ружанец складаецца з групаў па 15 асобаў, паміж якімі падзелены 15 таямніцаў Ружанца. Кожны чалавек, нягледзячы на ўзрост і становішча, які хоча верна маліцца на Ружанцы, можа быць уключаны ў Асацыяцыю. Кожны ўдзельнік штодзённа моліцца, разважаючы толькі адну таямніцу, а разам ствараецца цэлы Ружанец. Прызначаная таямнічка не мяняецца да канца жыцьця. Да таго ж, тут не трэба зьбірацца цэлаю групаю, кожны моліцца асабіста, тады, калі мае час.

Жывы Ружанец — гэта саюз сэрцаў, зьядналых у Беззаганным Сэрцы Марыі. Вернікі гэтай міжнароднай супольнасьці зьяўляюцца вернымі памочнікамі Маці Божай.

**Абавязкі ўдзельнікаў Жывога Ружанца.**

1. Адгаворваць прызначаную таямніцу кожны дзень (у любы зручны час) да канца жыцьця.
2. Адгаворваць прызначаную таямніцу ў наступных інтэнцыях:
- трыумф Беззаганнага Сэрца Марыі;
- ушанаваньне Сьвятой Філамэны (апякункі Жывога Ружанца і дзяцей Марыі).
3. Калі па нейкай прычыне (напр., цяжкая хвароба) не можаш далей належаць да Асацыяцыі Жывога Ружанца, просім своечасова паведаміць нам для перадачы тваёй таямніцы іншай асобе.
4. Пры зьмене адраса і прозьвішча просім паведаміць нам для ўнясеньня зьменаў у сьпісы.

Раскажыце іншым аб гэтых малітвах і Асацыяцыі.

*Наш адрас:* 220030, г.Мінск, пл.Свабоды, 9, "Асацыяцыя Жывога Ружанца", тэл.: 8-017 226-90-92.

Можна таксама дасылаць лісты на адрас рэдакцыі часопіса "Авэ Марыя" з просьбаю аб далучэньні да Жывога Ружанца.

"Ave Maria" май № 5 (31) 1997
Заснавальнік – Мінска-Магілёўская архідыяцэзія
Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржкамітэце Рэспублікі Беларусь па друку.
Рэгістрацыйны № 225.
Рэдакцыйная рада
Надрукавана на Мінскай паліграфічнай фабрыцы "Чырвоная зорка"
(г.Мінск, 1-ы Загарадны зав.,3). Зак. 1877. Наклад 11 000 экз.
Адрас рэдакцыі: 220030, г.Мінск, пл.Свабоды, 9, тэл./факс: (0172) 26-90-92
Катэдральны касьцёл Найсьвяцейшай Панны Марыі
Часопіс выдаецца на ахвяраваньні вернікаў











*Фаціма. Чэрвень 1995г.*
1. У часе размовы кардынала К.Сьвёнтка з сястрой Люцыяй.
2. Акт прысьвячэньня Беларусі Маці Божай Фацімскай.
3. Дэлегацыя сьвятароў з Беларусі ў Фаціме.